

Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 СНЕЖНЯ 2000г. № 48/4080 КОШТ 110 РУБ.







# Храм XX стагоддзя

Гэты храм шчасліва пазбег незайздроснага лёсу іншых мінскіх святыняў. Яго не зруйнавалі, ён выстаяў. Сёлета Касцёлу святых Сымона і Алены (больш вядомы як Чырвоны касцёл) — 90 год, і ён перажывае другое нараджэнне.

Храм пабудаваны ў 1910 годзе на сродкі беларускага шляхціца Эдварда Вайніловіча ў памяць яго памерлых дзяцей — 12-гадовага Сымона і 18-гадовай Алены. У 30-я гады ў часе антырэлігійнай кампаніі храм быў зачынены. У ім утварылі здымачны павільён кінастудыі, а пазней ён стаў клубам Саюза кінематаграфістаў — Домам кіно. З буфетам, канферэнц-залай, кіназалай, кабінетамі кіраўнікоў творчага саюза. Шмат разоў "ідэалагічны актыў" Мінска і БССР ставілі пытанне аб немагчымасці суіснавання побач Дома ўрада з помнікам Леніну і касцельнага будынка. Аднак "кіношнікі", якія вельмі ганарыліся сваім элітарным клубам, моцна трымаліся за сваю маёмасць і свой камфорт. Мабыць, гэта і выратавала будынак. На нейкі час касцёл даў прытулак дэмакратычным сілам. А неўзабаве храм быў перададзены вернікам. Сёння ён адрэстаўраваны, аздоблены творамі мастацтва.

У верасні побач з касцёлам паўстаў незвычайны помнік. Дакладная копія звона "Анёл", які застаўся цэлым падчас атамнага бамбавання японскага горада Нагасакі 9 верасня 1945 года. Тады атамная бомба ўзарвалася ў 50 метрах ад кафедральнага каталіцкага сабора. Гэта знак нашага пабрацімства з КраінайУзыходзяга Сонца: у японцаў — Хірасіма і Нагасакі, у беларусаў — Чарнобыль.

Храм Сымона і Алены дамінанта плошчы Незалежнасці. Дом урада, універсітэт, будынак гарвыканкама — не болей чым сціплая аправа гэтага дыямента. Сёлета храму 90 гадоў. Для нашай сталіцы ён сімвалізуе XX стагоддзе.

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*









# КОЛА ДЗЁН

**_Сёння Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу, які праходзіць пад дэвізам "СНІД: многае залежыць ад мужчын". Яго мэты — шырокае прыцягненне мужчын да прафілактычных мерапрыемстваў, накіраваных на вырашэнне праблем звязаных з ВІЧ/СНІД. Мужчыны больш, чым жанчыны, у сілу шэрагу абставін, падвергнуты рызыцы заражэння ВІЧ: міграцыя ў пошуках працы, жыццё далёка ад роднага дому і часта ў выключна мужчынскай кампаніі, ужыванне наркотыкаў і г. д. З пачатку 80-ых гадоў у свеце зарэгістравана 33,6 млн. ВІЧ-інфіцыраваных, з іх 16,3 млн. памерлі. У Расіі зарэгістравана 62.270 хворых, на Украіне — 33.000, у Беларусі — 3.188 чалавек, з якіх памерла 108. У рамках Сусветнага дня прафілактыкі СНІДу ў нашай краіне праходзіць шэраг мерапрыемстваў. Ці будзе ад іх вялікая карысць — невядома. Але "многае залежыць ад мужчын"..._**

**_У нас гэты тыдзень наогул пачаўся з гучных перамен ва ўладных структурах нашай краіны... А ў ЗША чацвёрты тыдзень лічаць галасы, каб вызначыць, каго амерыканскі народ выбраў сабе ў прэзідэнты._**

## ВЫБРАННЕ ТЫДНЯ

Старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В. Паповым падпісана пастанова "Аб выбранні старшынь пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь". Камісію па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе ўзначаліў Ігар Катляроў. На гэтую пасаду прэтэндавала яшчэ і Зінаіда Пянькова...

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Першы віцэ-прэм'ер урада Украіны Юрый Ехануроў, выступаючы 24 лістапада ў Будапешце перад прадстаўнікамі ўкраінскай дыяспары ў Венгрыі ў рамках сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін-удзельніц Цэнтральна-Еўрапейскай Ініцыятывы, паведаміў, што 15 снежня 2000 года а 12-й гадзіне будзе закрыта Чарнобыльская атамная электрастанцыя. Цырымонія закрыцця ЧАЭС будзе транслiравацца ў прамым тэлеэфіры. А вясной 2001 года споўніцца 15 гадоў з дня катастрофы на ЧАЭС...

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

З друку стала вядома, што ў 2001 годзе шэраг краін плануюць увесці візавы рэжым з Беларуссю. Так, з 1 студзеня гэта павінна зрабіць Славакія, з 1 мая — Венгрыя, а ў другой палове будучага года — Польшча. Словам, калі хочаце з'ездзіць у гэтыя краіны, то не адкладайце паездкі на наступны год.

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

У суседняй Расіі ў Прымор'і ў 30-градусны мароз людзі на вуліцах паляць вогнішчы, каб сагрэцца, бо ў кватэрах ужо які тыдзень халодныя батарэі. Здавалася б, у Расіі з яе багаццямі зімой людзі не павінны мерзнуць. Гэта ўсё так і было б, калі б Расія не будавала капіталізм. Выжывае і грэецца той, у каго ёсць грошы. Няма грошай — і нічога няма. Магчыма, у нейкім будучым і наша краіна пойдзе гэткім шляхам. Але гэта, відаць, далёка за гарамі. А пакуль што ў нашых кватэрах цёпла, бо пра нас яшчэ думае дзяржава, у якой ёсць такі сусед, як Расія. Да ўсяго, у нас не толькі цёпла, але і прадпрыемствы камунальнай галіны за апошні час зэканомілі каля 160 тысяч тон умоўнага паліва. Да канца года камунальнікі плануюць зэканоміць больш чым 200 тысяч тон. Праўда, калі маразы нас пашкадуюць. І ўсё ж нас доля Расійскага Прымор'я пакуль што не чакае, бо мы самі па сабе.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

З сённяшняга дня зноў павялічваюцца працоўныя пенсіі. Падставай для іх пераразліку паслужыла павелічэнне сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у кастрычніку. У снежні мінімальная працоўная пенсія па ўзросце разам з устаноўленай урадам даплатай складзе 20 тысяч 837 рублёў. Максімальныя пенсіі пенсіянераў, якія не працуюць і маюць індывідуальны каэфіцыент заробку больш за 1,4 да 4, у залежнасці ад гэтага будуць вар'іраваць ад 42 тысяч 783 да 58 тысяч 939 рублёў. Для пенсіянераў, якія працуюць, максімальна магчымым будзе памер пенсіі ў суме 42 тысячы 783 рублёў (пры стажы 40 і 45 гадоў адпаведна ў жанчын і мужчын і індывідуальным каэфіцыенце заработку 1,3 і вышэй). Сярэдняя пенсія па ўзросце будзе складаць 38 тысяч 550 рублёў. Сумы былі б не такія ўжо і мізэрныя, калі б цэны ў крамах былі хаця б напалову меншыя...

## НОВАЎВЯДЗЕННІ ТЫДНЯ

У час мінулай прыёмнай кампаніі былі факты, калі абітурыенты спрабавалі здаваць адначасова экзамены ў розныя ВНУ. Аднак, згодна з нарматыўным актам, гэта з'яўляецца парушэннем правілаў прыёму. І вось Міністэрствам адукацыі Беларусі прынята рашэнне, згодна з якім пачынаючы з 2001 года абітурыенты атрымоўваюць магчымасць паступаць адначасова ў некалькі ВНУ. Аднак, наўздагон за гэтым рашэннем, з'явілася пастанова калегіі Міністэрства адукацыі, згодна з якой ужо з наступнага года будзе абавязковым экзамен па замежнай мове ва ўсе ВНУ нашай краіны. У час мінулай прыёмнай кампаніі станоўчыя веды па замежнай мове паказалі 64 працэнты абітурыентаў. Мяркуючы па лічбе, гэты экзамен, калі будзе абавязковым, не лепшым чынам адаб'ецца на выніках прыёму. Асабліва гэта датычыцца выпускнікоў сельскіх школ і "мэтавікоў". Да ўсяго, такі клопат аб амаль пагалоўным веданні замежных моў дзіўна выглядае на фоне адносін да роднай мовы, дзякуючы якой народы свету ведаюць нас, як беларускі народ, у якога свая мова і культура.

## ВЫНІКІ ТЫДНЯ

Завяршыўся рэспубліканскі творчы конкурс на лепшае асвятленне ў перыядычных выданнях ходу падрыхтоўкі і правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Па групе "рэспубліканскія перыядычныя выданні" пераможцамі прызнаны рэдакцыі газет "Рэспубліка", "Звязда" і "Белорусская нива". Сярод мясцовых перыядычных выданняў узнагароды конкурсу атрымалі рэдакцыі абласной газеты "Мінская праўда", гарадскіх і раённых "Жодзінскія навіны", "Слонімскі веснік", "Іўеўскі край", "Дняпровец" (Рэчыца), "Сцяг працы" (Міёры). Журы адзначыла і конкурсныя работы рэдакцый газет "Правда народов Содружества", "Народная газета", "Чырвоная змена", "Гомельская праўда" і "Заря" (Брэст).

## ТРЫВОГА ТЫДНЯ

Істотнае зніжэнне канцэнтрацыі азону ў атмасферы над тэрыторыяй нашай краіны адзначана азонаметрычнай станцыяй Нацыянальнага навукова-даследчага цэнтра маніторынгу азонасферы. Паводле даных спецыялістаў цэнтра, тэндэнцыя зніжэння намецілася 12 лістапада і са значэння 278-281 адзінка Добсана, што блізка да кліматычнай нормы для гэтага месяца, прадоўжылася, і 18 лістапада ўжо было зарэгістравана 208 адзінак Добсана. Гэта на 30 працэнтаў ніжэй за кліматычную норму і пакуль што з'яўляецца "абсалютным гадавым мінімумам". Падобная азонавая "міні-дзірка" над тэрыторыяй Беларусі назіралася 1 снежня мінулага года. Вучоныя, спасылаючыся, што такая анамалія паўтараецца ў гэты час не першы раз, суцяшаюць, што гэта звязана проста з нашым кліматам. І ўсё ж нічога вясёлага ў "міні-дзірцы" над нашай краінай убачыць нельга...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

З нагоды 70-годдзя Уладзіміра Караткевіча ў чытальнай зале бібліятэкі Мінскага энергетычнага тэхнікума сабраліся выкладчыкі і студэнты першага курса, на сустрэчу з якімі прыйшоў вядомы крытык і літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў. Караткевіч — творца еўрапейскага ўзроўню — быў сапраўдным беларусам, адданым сынам Бацькаўшчыны, падкрэсліў выступоўца. Прагучалі вершы са зборніка Уладзіміра Сямёнавіча "Быў. Ёсць. Буду", якія аўдыторыя ўспрымала з вялікай цеплынёй і павагай.

●

Пра надзённыя праблемы рэчаіснасці, лёс маладога пакалення ў надыходзячым стагоддзі гаварыў празаік Алесь Савіцкі на сустрэчы з ветэранамі вайны ў Доме культуры "МАПІД".

●

Да вучняў пачатковых класаў мінскай школы N 128 завітаў аўтар шматлікіх зборнікаў для дзяцей паэт Мікола Чарняўскі. Майстар слова распавёў пра свой шлях у літаратуру, чытаў вершы, расказаў пра стварэнне кніжкі "Хто пакрыўдзіў кракадзіла". Напрыканцы дзеці атрымалі каляровае выданне з аўтографам пісьменніка.

**М. Р.**

### Паклон вялікаму земляку

Адным з эпіцэнтраў святкавання 70-годдзя Уладзіміра Караткевіча стала старажытная Орша — радзіма пісьменніка. У цэнтральнай бібліятэцы горада адкрылася навуковая канферэнцыя, у якой, акрамя мясцовых краязнаўцаў, бралі ўдзел і госці з Мінска — навукоўцы і літаратары А. Верабей, А. Ігнацюк, кіраўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Затым адбылося ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі музея У. Караткевіча, а ў Доме культуры льнокамбіната — вялікая вечарына, у часе якой выступалі прадстаўнікі Міністэрства культуры, Віцебскага аблвыканкама, пісьменнікі Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Давід Сімановіч, Генадзь Бураўкін, родныя і сябры Уладзіміра Сямёнавіча.

На свята вуліцы Караткевіча сабраліся школьнікі, прадстаўнікі грамадскасці горада, пісьменнікі з Мінска Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Навум Гальпяровіч, Анатоль Верабей, Сяргей Панізнік, Уладзімір Барысенка. Гучалі вершы, успаміны пра славутага земляка аршанцаў. Госці пабывалі ў хаце, дзе свае дзіцячыя і юнацкія гады правёў аўтар славутых кніг.

### У лучнасці муз

Арт-фае — так называлася акцыя, якую другі год запар праводзіць у Доме літаратара Міжнародная гільдыя жывапісцаў, якой кіруе мастак Фёдар Ястраб.

Выстава новых твораў, песні, музыка, вершы, якія чыталі Вольга Іпатава, Алесь Пісьмянкоў, Леанід Дранько-Майсюк, Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп, стварылі цудоўную атмасферу творчасці, лучнасці муз.

**Н. К.**



СУСТРЭЧЫ

# У гонар паэмы

Літаратурная грамадскасць, дзеячы культуры і мастацтва шырока адзначалі 75-годдзе з дня выхаду ў свет геніяльнай паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка". Арганізатарамі вечарыны выступілі Саюз беларускіх пісьменнікаў і супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Юбілейную ўрачыстасць адкрыла і вяла Вольга Іпатава. Яна натхнёна расказала пра свае ўспрыманне шэдэўра беларускай літаратуры. У выкананні С. Шульгі і Т. Мархель прысутным пашчасціла ўбачыць урывак са спектакля "Сымон-музыка", які ўпершыню быў пастаўлены ў 1976 годзе заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі рэжысёрам В. Мазынскім. Далучыцца душою і сэрцам да коласаўскай паэзіі прыйшоў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Ён зазначыў, што паэма "Сымон-музыка" — гэта сцвярджанне нашай духоўнасці, спроба гарманізаваць навакольны свет.

Любяць і чытаюць паэму не толькі на Беларусі, але і за мяжою. Аб гэтым засведчыў беларуска-ўкраінскі паэт-перакладчык В. Стралко. Танчэйшую лірыку, глыбокую псіхалогію і філасофію ў "Сымоне-музыку" ўбачыў кампазітар А. Хадоска (ён напісаў сімфанічны твор паводле паэмы). З захапленнем пра сваю любімую кнігу распавядала паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Раіса Баравікова. Не мог не засведчыць сваёй пашаны да паэмы і сын Якуба Коласа, доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч. Ён выступіў з заклікам болей чытаць беларускую літаратуру, ганарыцца сваёй мовай, культурай, гісторыяй.

А музычнае віншаванне вечароўцы прымалі ад вакальна-інструментальнага ансамбля "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука. Прагучалі песні на тэксты Якуба Коласа і сучасных паэтаў.

**Ірына ЦЕЦЯРУК**

*На здымках: перад аўдыторыяй выступае сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.*

*Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА*



БАЛЕТ

# А яны вяртаюцца...

Месяц гастроляў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі праміну хутка. І днямі, адразу пасля вандроўкі, яго мастацкі кіраўнік, галоўны балетмайстар Валянцін Елізар'еў сустрэўся з мінскімі журналістамі, распавёў пра справы творчыя, і не толькі.

У Галандыі, дзе наш тэатр выступаў з двума спектаклямі — "Лебядзінае возера" і "Спартак" (гл. нататку ў "ЛіМе" за 17.10.2000 г. "Балет гастралюе..."), быў выдатны прыём, цікавыя ўражанні, сустрэчы, знаёмствы.

Высветлілася, што галандцы нічога пра Беларусь не ведаюць, для іх пакуль незразумелы наш народ і грамадства, у якім мы жывём. "Шокавым" адкрыццём стала для іх тое, што мастацтва балета на Беларусі развівалася ўжо ў 18 ст., калі ствараліся на нашых землях оперна-балетныя тэатры, ды і раней былі распаўсюджаны "салідныя" еўрапейскія мастацтвы, гучала высокая музыка. Уражвала гасцінных гаспадароў і тое, што сённяшняя Беларусь мае Нацыянальны акадэмічны тэатр балета. Бо толькі моцная краіна можа сабе дазволіць утрымліваць балет на дзяржаўным узроўні, а ў сучаснай Еўропе ёсць краіны, якія такога тэатра не маюць (толькі прыватныя харэаграфічныя трупы, антрэпрызы).

"Нумарам адзін", паводле галандскай прэсы, паказаў сябе ў гастрольных спектаклях малады саліст Ігар Сядзько. Ды і маэстра В. Елізар'еў вылучае яго сярод талентаў новага пакалення: І. Сядзько сапраўды робіць грандыёзныя поспехі, гэты чалавек жыве мастацтвам, а ў творчасці, на думку маэстра, дасягаюць поспехаў толькі фанатыкі.

Радуе В. Елізар'ева з'яўленне даравітай моладзі ў сцэнах Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа, у трупе тэатра. А таксама — развіццё беларускай школы балетмайстраў. Сам кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета ўжо мае чатырох вучняў, якія годна паказалі сябе ў гэтай складанай прафесіі. Прынамсі, спектаклі, пастаўленыя Раду Паклітару і Наталляй Фурман, з поспехам ідуць на вялікай сцэне. Як перспектыўны харэограф паказвае сябе і колішні вядучы саліст У. Іваноў.

Але як ні радуе творчасць, праблемы эканамічныя пра сябе нагадваюць. Нестабільнасць фінансавага становішча ў галіне культуры ўплывае нават на атмасферу ў ася-

ВЕЧАРЫНЫ

# Ушанавалі Падэрэўскага

"Рэдакцыя: Ігнацы Ян Падэрэўскі", — гэты радок, пазначаны ў кракаўскім выданні поўнага збору твораў Фрыдэрыка Шапэна, многім музыкантам знаёмы з маленства. Аднак у гісторыю еўрапейскай культуры Падэрэўскі ўвайшоў не толькі як рэдактар опусаў "паэта фартэпіяна". Ён быў бліскучым артыстам, піяністам-віртуозам, а таксама кампазітарам. І ўспомніць імя гэтага выдатнага польскага музыканта, і ўшанаваць яго праз выбітны канцэрт нарадылася добрая нагода: 140-годдзе з дня нараджэння.

Музычная вечарына, прысвечаная юбілею І. Падэрэўскага, была зладкавана Польскім інстытутам у сталічным Доме дружбы. Яе вядучая Юлія Андрэева знайшла своеасаблівы эпіграф да праграмы: хаця і тэхнічна недасканалы, але кранальны сваёй "аўтэнтычнасцю" рэдкасны запіс "Месяцавай санаты" Бетховена (Adagio), зроблены самім І. Падэрэўскім для аднайменнага галівудскага фільма.

Лепшыя беларускія выканаўцы, адзначаныя лаўрамі розных міжнародных конкурсаў, удзельнічалі ў канцэрце. Найперш ён адлюстраваў гістарычную повязь: Шапэн — Падэрэўскі. Музыка Ф. Шапэна гучала ў выдатным выкананні Аляксея Пятрова, Аляксандра Музыкантава. Віртуозныя творы з рэпертуару І. Падэрэўскага, якія не стамляўся граць па 17 гадзін у суткі, прадставілі Канстанцін Красніцкі, Андрэй Сікорскі, Андрэй Паначэўны (выконвалі, адпаведна, музыку Ф. Ліста, Ф. Шуберта, Я. Брамса). Наведнікі вечарыны адкрылі для сябе незнаёмыя старонкі песеннай лірыкі І. Падэрэўскага, падрыхтаваныя салістамі Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі Таццянай Трацця, Эльвірай Рыжановіч ды Аляксандрам Жукавым.

На жаль, адсутнасць рэкламы, а таксама правядзенне ў сталіцы адначасова некалькіх цікавых імпрэзаў не дазволілі сабраць у зале многіх прыхільнікаў і знаўцаў высокага мастацтва. На "біс" жа такія праграмы не выконваюцца. Шкада...

**Н. К.**

НАДЗЁННАЕ

# Адкрытасць і экалогія

Пры канцы лістапада на возеры Свіцязь адбыўся "круглы стол" на тэму "**Грамадскія экалагічныя арганізацыі: публічнасць дзейнасці перад пагрозаю дээкалагізацыі краіны**". Абмеркаваць пытанне з'ехаліся экалагісты з розных рэгіёнаў Беларусі, навукоўцы, журналісты, а таксама прадстаўнікі дабрачынных праграм ЗША, Польшчы, Чэхіі, Нідэрландаў. Прынята Рэзалюцыя "круглага стала" аб утварэнні Асацыяцыі недзяржаўных экалагічных арганізацый і грамадскіх ініцыятыў Беларусі.

Удзельнікі "круглага стала" **канстатуюць**, што ў краіне недастаткова задзейнічаны грамадскі чыннік у пытаннях аздараўлення навакольнага асяроддзя, захавання нацыянальнай прыроднай спадчыны, волевыяўлення людзей у форме пратэстаў (пікетаў, шэсцяў і інш.). Пры гэтым захоўваецца становішча, калі наўрадавыя экалагічныя арганізацыі, нягледзячы на рэальныя магчымасці, не зацікаўленыя ў публічнасці сваёй дзейнасці, абмяжоўваюцца справаздачамі перад грантадаўцамі і фактычна закрытыя ад шырокай беларускай грамадскасці;

— **звяртаюцца** да журналістаў, СМІ, прэсавых службаў з прапановай шырока знаёміць аўдыторыю з дзейнасцю грамадскіх экалагічных арганізацый, выкарыстоўваць іх незалежную пазіцыю і думку, спрыяць публічнасці і адкрытасці прыродаабаронных ініцыятыў, крытычна ставіцца да выпадкаў, калі арганізацыя існуе на дабрачынныя сродкі, але закрытая ад грамадства;

— **выступілі** з ініцыятывамі распрацаваць генеральную схему прыродакарыстання Беларусі, якая затым будзе кантралявацца сябрамі недзяржаўных арганізацый: вызначыць стратэгію экадзеяння трэцяга сектара Беларусі на перыяд да 2005 года; вывесці з падпарадкавання выканаўчай улады шэраг дзяржаўных экалагічных службаў; склікаць у 2001 годзе Усебеларускі з'езд эколагаў.

ПОШТА

# Успомнім Яўгена Ляцкага

Інфармацыйныя звесткі аб гэтай неардынарнай асобе ў нашых энцыклапедычных даведніках даволі сціплыя, калі не сказаць завужаныя: даследчык беларускага фальклору і этнаграфіі — і толькі. На "этнаграфічным" вызначэнні пры характарыстыцы Ляцкага спатыкнуўся нядаўна і аўтар гэтых радкоў (артыкул пра Эпімаха-Шыпілу ў 15-м выпуску "Беларусікі"). Каюся!

А між тым мы маем справу з універсальным мысляром — беларусаведам, прапагандыстам у Заходнім свеце новай беларускай літаратуры, творцам, у пэўнай ступені, беларускай літаратуразнаўчай і нацыянальнай думкі. Менавіта ў гэтай новай, неадольна прываблівай іпастасі і паўстае перад намі творчая постаць Я. Ляцкага са старонак унікальнага крыніцазнаўчага зборніка (Бранск, 2000). Укладальнік, аўтар прадмовы, грунтоўнага каментарыя — вядомы славіст С. Міхальчанка, якому заўдзячаем таксама канцэптуальнае асэнсаванне другой прыкметнай фігуры на беларусазнаўчай ніве — гісторыка М. Доўнара-Запольскага. Гэтым разам калегу з Бранска пашчасціла дапасці, сабраць і выдаць пад адной вокладкай малавядомыя або цалкам забытыя матэрыялы, эпісталярыю Я. Ляцкага (1866—1942) у архівасховішчах Расіі, Украіны і асабліва Чэхіі. Поруч з насычанай перапіскай знакамітага рускага філолага і выдаўца з суродзічамі па рускім замежжы (З. Гіпіус, Дз. Мярэжкоўскі, Н. Тэфі, М. Лоскі, А. Купрын і г. д.) не менш уражвае "беларуская" частка вернутай з забыцця спадчыны Яўгена Аляксандравіча, дарэчы, менчука з нараджэння. Сярод іншага — машынапіс яго артыкула "Беларусь", перапіска з Інбелкультам, іншымі грамадскімі ўстановамі Беларусі, з С. Некрашэвічам, З. Жылуновічам, А. Цвікевічам (усё — 20-я гады).

Пра інтэлектуальную вартасць (і надзённасць!) вернутых тэкстаў няхай пасведчаць наступныя апавядальныя радкі Ляцкага, адданага рыцара сваёй Бацькаўшчыны: "Разве не отстояла Беларусь в течение веков святыни своих преданий, своего языка и своих затаенных надежд на лучшее будущее? Разве не почерпала она при каждом новом испытании новых сил, пригибаясь к земле, политой ее потом и кровью? Разве не посылала она наиболее даровитых своих сынов для работы на общерусской и общеславянской ниве? И когда я думаю о ближайших судьбах моего родного края, ...как бы ни сложились они, Белоруссии нечего стыдиться и прятаться за спины других народов".

Праз знаёмства з анатуемай кнігай мяне, беларуса, расчуліла і такая, мабыць, упершыню на расійскім выдавецкім палетку згледжаная дэталь: тытульны разварот на дзвюх мовах — рускай і беларускай. Сапраўды, "мелочь, а приятно". Словам, ёсць што чытаць, над чым разважаць. Ды з удзячнасцю падумаць аб бранскіх падзвіжніках беларушчыны, расійска-беларускага культурнага дыялогу.

**Аляксей КАЎКА**

роддзі навучэнцаў харэаграфічнага каледжа. Раней яны жылі выключна інтарэсамі будучай прафесіі, мастацтва. Цяпер часцей цікавяцца, дзе колькі зарабляюць артысты балета, куды паехаць на працу, каб не бедаваць.

Насамрэч, наш тэатр — на вышыні. Яго ведаюць у свеце, працаваць пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева хацелі б нават перспектыўныя замежныя танцоўшчыкі, балерыны, калі б... не ўзровень заробку. Вядома, сярод тэатральных калектываў Нацыянальны тэатр балета Беларусі самы-самы: самы аншлагавы, з самымі дарагімі білетамі, з самымі забяспечанымі артыстамі. (Кажуць, калі б дазваляў закон, тэатр мог бы яшчэ і павысіць заробкі, бо ўласнай працай стварыў пэўны грашовы рэзерв). Аднак у сусветным маштабе...

Нават у бліжэйшых суседзяў — у Латвіі, Літве, Польшчы, Расіі — праца артыста балета каштуе даражэй. У Вялікім тэатры Варшавы, напрыклад, малады танцоўшчык, якога толькі-толькі ўзялі на працу, атрымлівае месячны аклад 500 долараў: ужо за тое, што ягонае імя лічыцца ў спісе трупы! А кожны выхад у спектаклі, залежна ад складанасці партыі, ацэньваецца асобна. Але ж і ў гэтых тэатрах назіраецца "зыход" артыстаў на Захад.

Зрэшты, мяркуе В. Елізар'еў, адток кадраў на Захад — рэч закачамерная ў кожнай "канверсоўнай" прафесіі, не толькі ў балеце. Аднак маладыя артысты часцяком не задумваюцца пра наступствы сваіх радыкальных рашэнняў. Калі яны проста кідаюць родны тэатр, не афармляючы кантракта, дык рызыкуюць у хуткім часе апынуцца ў драматычным становішчы. Чаму? Працоўны стаж на радзіме "не ідзе", адлічэнні ў пенсійны фонд не паступаюць. Вялікія грошы, зробленыя за мяжой, хутка растрачваюцца. Век артыста балета — кароткі. Шанцуе не ўсім... Напрыклад, са сваіх колішніх аднакласнікаў, якім сапраўды пашчасціла зрабіць кар'еру на Захадзе, В. Елізар'еў прыгадвае аднаго Міхаіла Барышнікава...

Размовы размовамі, а справы творчыя кажуць самі за сябе. Тэатр балета Беларусі вяртаецца з гастроляў — любімы і папулярны. З поспехам ідуць на яго сцэне нават спектаклі-доўгажыхары: "Кармэн-сюіта", "Стварэнне свету". Маэстра плануе чарговыя вандроўкі і працуе адначасова над некалькімі новымі балетамі, але пакуль не называе іх тэматыку. Адно дазналіся журналісты: наладжваецца супрацоўніцтва з беларускім кампазітарам В. Кузняцовым.

А што наконт абяцанай у гэтым сезоне абноўленай "Спячай красуні" П. Чайкоўскага? Як толькі будуць пералічаны грошы на пастаноўку, над якой В. Елізар'еў працуе з мастаком-сцэнографам В. Окуневым, прэм'ера не прымусіць сябе доўга чакаць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

АБСЯГІ

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Караткевічаўскія чытанні

На мінулым тыдні Віцебшчына шырока адзначыла 70-гадовы юбілей Уладзіміра Караткевіча. Караткевічаўскія чытанні пачыналіся з бібліятэкі, якая носіць яго імя. У літаратурным музеі адбылася прэзентацыя выстаў "Караткевіч і тэатр", "Прысвячэнне Уладзіміру Караткевічу". Коласаўцы, якія пры жыцці пісьменніка паставілі два спектаклі па ягоных творах "Званы Віцебска" і "Кастусь Каліноўскі", перадалі музею рэквізіт і касцюмы тых пастановак. Па ініцыятыве мастака Міхася Ляўковіча і суполкі "Віцебская акварэль" адкрылася выстава карцін, прысвечаных генію беларускага слова. Ва ўрачыстай вечарыне з нагоды юбілею земляка прынялі ўдзел пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Сяргей Панізнік, Франц Сіўко, Алег Салтук, Анатоль Канапелька, Пятро Ламан, Барыс Беляжэнка, Вольга Русілка і Давід Сімановіч. Прэміі Уладзіміра Караткевіча (камітэт па іх прысуджэнні ўзначальвае начальнік упраўлення культуры аблвыканкама М. Пашынскі) прысуджаны ў галіне літаратуры Алегу Салтуку; за прапаганду жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча — намесніку старшыні Аршанскага гарвыканкама Валянціне Сідняковай і настаўніцы з Оршы Ліліі Радомскай. Пасля ўрачыстага пасяджэння быў паказаны спектакль Гомельскага аблдрамтэатра "Дзікае паляванне караля Стаха".

### Права на інфармацыю

Напрыканцы лістапада ў Віцебску прайшоў міжнародны семінар "Права на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі". Арганізавалі яго маскоўскі Фонд абароны галоснасці і Беларуская асацыяцыя журналістаў. У семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі рэгіянальных СМІ Беларусі. Даклад юрыста з Масквы Наны Габешыя быў прысвечаны праблемам заканадаўства і практыцы атрымання інфармацыі ва ўмовах Расіі і іншых краін. З цікавымі прамовамі выступілі таксама рэдактар газеты "Беларуская маладзёжная" Тацццяна Мельнічук, віцэ-прэзідэнт БАЖ Анатоль Гуляеў. Было адзначана, што правы грамадзяніна на свабоднае атрыманне інфармацыі — адна з галоўных прыкмет развітой дэмакратычнай краіны.

**Святлана ГУК**

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Калекцыя папоўнілася

У канцы лістапада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў быў вызвалены Гомель. Жорсткія баі да яго подступаў разгарнуліся ў раёне Веткі і вёскі Хальч, дзе нашы воіны захапілі плацдарм на правым беразе Сожа, фарсіравалі раку і выйшлі на штурм варожых пазіцый. Аб фарсіраванні Сожа ў тыя дні расказвае панарамная карціна гомельскага мастака Уладзіміра Кароткага, якую набыў абласны краязнаўчы музей. Музейная калекцыя папоўнілася і карцінамі іншых жывапісцаў — пераможцаў конкурсу, абвешчанага абласным упраўленнем культуры і абласной арганізацыяй Саюза мастакоў у гонар вызвалення абласнога цэнтра.

### Чарговы нумар

Выйшаў чарговы сумесны выпуск "Жывая вада" абласных газет Гомельшчыны, Віцебшчыны, Браншчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і Жытоміршчыны. Як і заўсёды, значнае месца ў ім адведзена літаратуры, мастацтву і культуры. Надрукаваны артыкул пра карані творчасці Івана Мележа і яго земляку, матэрыял аб тэатральных пастаноўках па драматургічных творах Андрэя Макаёнка, цікавая культурніцкая інфармацыя.

### "Мой горад"

Дваццаць пяць гадоў адпрацаваў на Гомельскім заводзе радыелагічнага абсталявання Валеры Аляксеевіч Ражноў — вядучы спецыяліст па дызайне. Ён з'яўляецца сябрам Беларускага саюза дызайнераў і міжнароднай грамадскай арганізацыі саюза дызайнераў, удзельнікам рэспубліканскіх і міжнародных выстаў. Адначасова працуе і ў галіне станковай графікі (у тэхніцы пастэль), стварыў серыю пейзажаў пра Санкт-Пецярбург, дзе калісьці вучыўся... Выстава пад назвай "Мой горад" адкрыта ў мясцовым дзяржуніверсітэце.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## БРЭСТЧЫНА...

### Свята кніжкі, свята братэрства

У вядомай паэткі і перакладчыцы Ніны Мацяш нямала сяброў ва Украіне. Адзін з іх — паэт з Цярнопаля Валадзімір Барна. З нагоды выхаду ягонага зборніка вершаў па-беларуску "Мелодыя срэбнай ночы", Брэсцкая абласная бібліятэка і аддзяленне Саюза пісьменнікаў наладзілі сустрэчу чытачоў з аўтарам і перакладчыцай Нінай Мацяш. Святам братэрства стала гэтая сустрэча, бо, акрамя стваральнікаў кніжкі, у шчырай гаворцы пра агульныя лёс двух народаў, пра сувязі іхніх культур прынялі ўдзел многія брэсцейскія пісьменнікі, у тым ліку і тыя, хто піша па-украінску, аматары паэзіі і літаратуразнаўцы.

### Рыхтуюцца да фіналу

На 2—3 красавіка наступнага года запланаваны фінал абласнога літаратурнага конкурсу юных талентаў "Дэбют". А пакуль што ў раёнах і гарадах праходзяць занальныя конкурсы, якія выяўляюць пераможцаў-фіналістаў. Як сведчаць вынікі, у вобласці нямала здольных да творчасці юнакоў і дзяўчат ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў. Конкурс "Дэбют" традыцыйны, аднак асаблівасці цяперашняга ў тым, што адначасова з фіналам адбудзецца абласны літаратурны семінар, у якім прымуць удзел не толькі школьнікі і студэнты, а і паэты, празаікі старэйшых узростаў. Працаваць з семінарыстамі будуць пісьменнікі з Мінска, Брэста ды іншых гарадоў рэспублікі.

**Сымон АКСЕНІН**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### "Маладзёжная-2000"

У Бабруйскай выставачнай зале адкрыўся вернісаж маладых мастакоў горада. Большасць з іх — навучэнцы Беларускай акадэміі мастацтваў. У экспазіцыі выставы, якая праходзіць пад назвай "Маладзёжная-2000", прадстаўлены жывапіс, скульптура і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Сярод удзельнікаў выставы — і дзеці вядомых бабруйскіх мастакоў.

### Будзе новы герб

У хуткім часе ў Бялынічах будзе свой герб. Такое рашэнне прыняў мясцовы райвыканкам. У 1634 годзе Бялынічам было дадзена магдэбургскае права з усімі яго атрыбутамі, уключаючы і герб. Правам мястэчка карысталася да 1803 года. Калі ж землі адышлі да Расіі, Бялынічы страцілі і герб. Зараз у горадзе вырашылі стварыць раённую камісію, якая будзе займацца распрацоўкай новага герба. Яго мяркуюць зарэгістраваць у 2002 годзе.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## *Караткевіча помняць, бо любяць*

**26 лістапада ў мінскім кінатэатры "Змена" з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча адбылася кінавечарына, на якой можна было паглядзець дакументальны фільм "Мсціслаў" рэжысёра Уладзіміра Арлова і мастацкую стужку "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" Уладзіміра Бычкова. А перад кінасеансамі Уладзіміра Караткевіча згадвалі старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў і пісьменнік Кастусь Тарасаў.**

**Абодва фільмы зняты па аднайменных творах пісьменніка: першы па матывах нарыса "Мсціслаў" — дарэчы, пра родны горад Караткевічавай маці. Прычым гэта апошняе, што напісаў ён. А так званае Евангелле ад Іуды "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" ці не лепшы ягоны раман, і, што цікава — у фільме ёсць малы эпізод, дзе здымаецца сам Уладзімір Караткевіч.**

**Кірыла ПАЗНЯК**

•

**24 лістапада ў Віцебску адбылася тэатральная канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю Уладзіміра Караткевіча.**

**Пад крылом Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа сустрэліся з нагоды юбілею славутага пісьменніка навукоўцы, пісьменнікі, крытыкі, акцёры і рэжысёры.**

**Тэмы выступленняў, натуральна, былі прысвечаны даследаванню творчасці пісьменніка. Гаспадыняй і вядучай канферэнцыі была кандыдат мастацтвазнаўства Таццяна Катовіч. Прагучалі выступленні рознага жанру, ад эмацыйных успамінаў пра асабістае і блізкае знаёмства з У. Караткевічам заслужанага артыста Алеся Лабанка і заслужанага дзеяча культуры Геральда Асвяцінскага да найцікавейшых даследаванняў творчасці пісьменніка і адметнасці сцэнічнага ўвасаблення яго твораў у тэатрах Беларусі. Таццяна Катовіч пазнаёміла ўдзельнікаў з сваёй працай пад назвай "Драматургія У. Караткевіча на сцэне тэатра імя Якуба Коласа", а рэжысёр тэатра Юры Лезянгевіч распавёў аб стварэнні спектакля "Цыганскі кароль". Доктар мастацтвазнаўства Вольга Нячай з Мінска давяла да ўдзельнікаў цікавае даследаванне "Уладзімір Караткевіч і экран".**

**Але канферэнцыя не абмежавалася толькі навуковымі выступамі. Другая частка пачалася монаспектаклем Беларускага паэтычнага тэатра аднаго актора "Зьніч" — "Нобіль — Барвяны ўладар", зробленым паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча "Сівая легенда". 20—30-я гады XVII стагоддзя прынята лічыць смутнымі часамі на Беларусі. Вельмі складаны ўнутраны і знешні стан Рэчы Паспалітай таго часу змушаў яе да пагрозы ваенна-палітычнай барацьбы з суседзямі — Расіяй, Швецыяй, Турцыяй. Таму зусім невыпадкова, што аўтар аповесці "Сівая легенда" (першапачатковая назва "Раман Ракута") дае словы расповеду наёмнаму кнехту Канраду Цхакену. Гэты даволі незвычайны ход дазваляе намаляваць узбуйнена і рамантызавана асобу, народ, гісторыю Бацькаўшчыны. Усхваляваны маналог Канрада робіцца "сівой легендай" пра наш народ. (Рэжысёр і выканаўца — заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Шэлестаў).**

**Усе з нецярплівасцю чакалі вечара, падчас якога на вялікай сцэне тэатра гучалі добрыя і цёплыя ўспаміны аб У. Караткевічу яго сяброў, пісьменнікаў А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна, У. Арлова, а С. Панізнік даў усім радасную магчымасць пачуць з плёнкі голас У. Караткевіча. Вечар скончыўся пастаноўкай Гомельскага рускага драматычнага тэатра "Дзікае паляванне караля Стаха".**

**Ганна СПАСКАЯ**

## *Неўміручая "Крыніца"*

**Рэдакцыйны калектыў шматпакутнага часопіса "Крыніца" мае добрую вестку для сваіх былых і, спадзяёмся, будучых чытачоў.**

**Даводзім, што нарэшце задоўжаны фінансавы і арганізацыйны крызіс намі пераадолены. У хуткім часе будуць сплачаныя запазычанасці па аўтарскіх ганарарах за прамінулы час, а таксама пабачаць свет яшчэ тры нумары часопіса за 2000 год. Рыхтуюцца да планавага друку і першыя два нумары 2001 года, у якіх чытачы змогуць пазнаёміцца з творчымі партрэтамі Аркадзя Моркаўкі, Ніла Гілевіча, Габрыеля Гарсія Маркеса, а таксама з новымі творамі сучасных беларускіх і замежных літаратараў.**

**Будзе выдрукавана ў першым нумары за 2001 год цікавая экспрэс-анкета з апытаннямі чытачоў пра лепшыя творы нашых пісьменнікаў і паэтаў, што з'явіліся ў свет на працягу гэтага года.**

**Мы заклікаем усіх тых, хто неабыякавы да беларускай культуры і літаратуры, падпісацца на "нескароны" нацыянальны часопіс "Крыніца" на 2001 год, каб мець магчымасць выжывання ў наш цяжкі час не абасобленай, а сумеснымі намаганнямі. Выжывем толькі разам!**

**Дзякуем усім за праяўленую салідарнасць і духоўную падтрымку.**

**Мы будзем намагацца апраўдаць ваш давер.**

**РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА "КРЫНІЦА"**

# Прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў



ДАРАФЕЙЧУК Ірына Іванаўна нарадзілася ў 1969 годзе, настаўніца матэматыкі і інфарматыкі ў Полацкай нацыянальнай гімназіі. Аўтар паэтычнага зборніка "Сцяблінка на лязе" (Мінск, 1997).

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Віцебскае абласное аддзяленне СБП, Навум Гальпяровіч, Марыя Баравік, Алесь Жыгуноў.

❑

КАЗАПАЛЯНСКАЯ Наталля Міхайлаўна (літаратурны псеўданім Капа) нарадзілася ў 1973 годзе, галоўны архівіст Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Аўтар кнігі вершаў "Панна Каханка" (Мінск, 1998).

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Камароўскі, Кастусь Жук.

❑

КОРБУТ Вячаслаў Яўгенавіч, нарадзіўся ў 1972 годзе, супрацоўнік ВКП "Пралексус". Аўтар кнігі вершаў "Цар-алень" (Мінск, 1997) і зборніка прозы і паэзіі "Начны мастак" (Мінск, 2000).

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Анатоль Вярцінскі, Генрых Далідовіч, Алесь Пашкевіч.

❑

ЛЕГАСТАЕВА Аліна Антонаўна (літаратурны псеўданім Бярэзіч), нарадзілася ў 1941 годзе, зараз на пенсіі. Аўтар зборнікаў вершаў "Яшчэ да Евы я жыла..." (Мінск, 1999) і "На вертикали сердца" (Мінск, 1999).

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Галіна Булыка, Міхась Кенька, Віктар Шніп.

❑

МЕДУНЕЦКІ Васіль Хрысанфоравіч нарадзіўся ў 1943 годзе, працуе мастаком-афармілем. Аўтар зборнікаў паэзіі "Посох Аввакума" (Мінск, 1993) і "Черный хлеб" (Мінск, 1998).

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Янка Сіпакоў, Віктар Шніп, Алесь Марціновіч.

❑

СЯРГЕЙ Сцяпан Фёдаравіч (літаратурны псеўданім Юрась Гуліцкі) нарадзіўся ў 1953 годзе, намеснік начальніка БУ-50 ААТ "Будтрэст" N 4. Аўтар кнігі паэзіі "Буслы на рэчышчы" (Мінск, 1999), займаецца і прозай.

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Алесь Бадак, Віктар Гардзей, Яўген Хвалей.

❑

ШУМСКАЯ Ірына Міхайлаўна (літаратурны псеўданім Ірына Хадарэнка) нарадзілася ў 1976 годзе, аспірантка Беларускага універсітэта культуры. Аўтар кнігі вершаў "Чорная ружа" (Мінск, 1998) і зборніка прозы і паэзіі "Танцы на шкле" (Мазыр, 1999).

Рэкамендавалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Леанід Дранько-Майсюк, Леанід Галубовіч, Галіна Булыка.

ВЫСТАВЫ

# Праз смугу стагоддзяў

Вялікаму князю Вітаўту і памяці герояў Грундвальда прысвечана мастацкая выстава "Праз смугу стагоддзяў", што адкрылася ў Галерэі Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра ў Мінску.

Мастакі творчай суполкі "Пагоня" арганізавалі яе з нагоды 650-х угодкаў Вялікага князя Вітаўта і 590-х угодкаў бітвы супраць крыжакоў пад Грунвальдам. Вялікую ролю Вітаўта ў справе аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства дзеля незалежнасці нашых зямель адзначылі ў сваіх прамовах на адкрыцці выставы Мікола Купава, Вольга Іпатава, Алег Трусаў і іншыя. А бітва пад Грунвальдам на пяць стагоддзяў пазбавіла славянскія землі ад нашэсцяў тэўтонцаў. Гісторыя сведчыць і аб вялікім укладзе ў перамогу пад Грунвальдам беларускіх ваяроў. Плячом да пляча змагаліся з крыжакамі харугвы Нясвіжа і Крэва, Полацка і Навагрудка, Ліды і Брэста... І ўсе, хто ганарыцца нашай гісторый, аддае даніну павагі нашым мужным прадзедам. Як і мастакі "Пагоні", якія сваімі творамі ўславілі гераічны подзвіг сыноў Беларусі.






*На здымках: выступае Вольга Іпатава; харугву з выявай Вітаўта зрабіў мастак Алесь Пушкін; на выставе "Праз смугу стагоддзяў".*

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ**

АНОНС

# "Віцебскі рэнесанс" працягваецца

***3 снежня ўрачыста адкрыецца XII Віцебскі міжнародны музычны фестываль імя І. Салярцінскага.***

Сімвалічна, што ў яго канцэртных праграмах адлюстраваліся самыя розныя набыткі музычнай гісторыі ўжо амаль прамінулага тысячагоддзя. Арганныя творы І. С. Баха і Г. Гендэля; фартэпіянныя — Ф. Шуберта, Ф. Ліста, Ф. Шапэна, М. Мусаргскага, П. Чайкоўскага, К. Дэбюсі, С. Рахманінава; вакальныя — Д. Пергалезі, Д. Качыні, В. Моцарта, С. Пракоф'ева, І. Стравінскага, А. Месіяна, Г. Свірыдава... У фестывальным рэпертуары аднаго з пачынальнікаў і нязменнага ўдзельніка гэтага фестывалю — Ансамбля салістаў "Класкік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава замоўлены, сярод іншага, і творы нашых землякоў-сучаснікаў С. Бельцюкова, В. Кузняцова, Я. Паплаўскага. А ў гала-канцэрце заключнага вечара, 10 снежня, — сусветная оперная класіка ў выкананні салістаў Акадэміі маладога спевака Марыінскага тэатра оперы і балета Санкт-Пецярбурга.

Апроч канцэртаў у Віцебску, ладкуюцца музычныя вечары ў зале Сафійскага сабора ў Полацку (беларускія арганісты К. Пагарэлая, К. Шараў, знаёмы нашай сталічнай публіцы дуэт з Францыі — віяланчэліст Ж. Перно ды піяніст Ж. Дзюкро), у Андрэеўскім касцёле мястэчка Лынтупы, што на Пастаўшчыне, у касцёле св. Антонія Падуанскага ў Паставах, у дамах культуры і ДМШ Браслава, Глыбокага, Оршы, Гарадка, Полацка ды Наваполацка.

Лішне казаць, што апошні месяц года ў складаных эканамічных варунках — не лепшы час для правядзення сур'ёзных некамерцыйных фестываляў. І калі абвешчаны склад удзельнікаў традыцыйных віцебскіх музычных сустрэч зменіцца, прэтэнзій да арганізатараў не будзе. Яны — кіраўніцтва культурай віцебскіх аблвыканкама і гарвыканкама, абласная філармонія, Віцебскае музычнае таварыства, Міністэрства культуры — заручыўшыся падтрымкай Беларускага саюза музычных дзеячаў, Саюза кампазітараў, Польскага інстытута ў Мінску, Расійскай дзяржаўнай канцэртнай арганізацыі "Садружнасць", Пецярбургскага фонду Д. Шастковіча, пастараліся зрабіць праграму высокаэстэтычнай і, адпаведна традыцыям І. Салярцінскага, пазнаваўчай, асветніцкай. У музычнай гасцёўні адбудуцца чарговыя чытанні на тэму "Віцебскі рэнесанс пачатку XX стагоддзя". Плануюцца сустрэчы з кампазітарам І. Лучанком і з яго польскім калегам Е. Станкевічам. Рыхтуюцца тэматычныя экспазіцыі ў выставачных залах.

**С. Б.**

МЕРКАВАННЕ

# Беларусь на мяжы тысячагоддзяў

## ШТРЫХІ ДА ГІСТАРЫЧНАГА, ПАЛІТЫЧНАГА І ДУХОЎНАГА ПАРТРЭТА НАЦЫІ

Уладзімір КОНАН

НЯМЕЦКІ пісьменнік швейцарскага паходжання Герман Гесэ ў 1920-я гады напрарочыў масавае спрашчэнне культуры, выцясненне элітарнай кампетэнтнасці так званым *фельетонным стылем*. Але першым прарокам тут быў расійскі геній Мікалай Гогаль украінскага паходжання: гэта ён адкрыў неўміручы вобраз Хлестакова, што хваліўся незвычайнай лёгкасцю сваіх думак і пачуццяў. Тады хлестакоўшчына прыжылася на бытавым і службова-бюракратычным узроўнях, нядрэнна пачувалася ў асяроддзі напаўсвецкіх салонаў. Г. Гесэ разгледзеў яе у газетна-часопіснай балбатні свайго часу. Але абодвум, здаецца, і не снілася такое паніжэнне масавай літаратуры, кінематографа, найбольш так званых мас-медыа на тэлеэлектронных паверхах. Там хлестакоўшчына, нярэдка банальная правакацыя і прагматычна разлічаны на пэўную аўдыторыю паклёп сталі модай, адсунулі прафесійную навуку, нацыянальную культуру, сумленнае мастацтва, прыстойную палітыку, нават эканоміку далёка за авансцэну.

На зыходзе дваццатага стагоддзя аб'ектам палітычных эксперыментаў і мэтанакіраванай кампраметацыі стала нашая бацькаўшчына Беларусь. Яе "скубуць" суседзі з двух бакоў, Усходні Вучоны і Заходні Вучоны. Пачынаючы ад нейкіх элітарных тусовак з удзелам лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі да бульварных пісак і тэлевізійных балбатуноў. Горка ад таго, што ў гэтую кампанію шальмавання Беларусі падключыліся некаторыя мясцовыя "маладыя" (гадкоў пад сорак) літаратары, навукоўцы і собы невядомай прафесіі. Незалежна ад палітычнай арыентацыі: ад чарнасоценцаў і бальшавіцкіх артадоксаў — да лібералаў "еўрапейскай" арыентацыі.

Да гэтай дыскрэдытацыі беларускай ідэі прычынілася сучасная адсутнасць строгай, лагічна выверанай этналагічнай навукі. Сучасная этналогія на ўзроўні масавай культуры — гэта мяшанка выпадковых эмпірычных фактаў, легкаважных гіпотэз, замешаных на палітычных міфах. На жаль, не толькі ў палітыцы, але таксама ў акадэмічнай і універсітэцкай навуцы блытаюць этнічнае паходжанне з нацыянальнай прыналежнасцю. Між тым этнас ёсць гістарычна дэтэрмінаваны сінтэз прыроднага і сацыяльнага быцця народа, адзінства генетычна зададзенай антрапалагічнай фармацыі і такога ж аб'ектыўнага =ў=сябе=быцця (паводле Гегеля), у тым ліку гістарычна дэтэрмінаванай этнічнай культуры. Уключаючы народную мову ў шматграннасці яе рэгіянальных дыялектаў. Нацыя ёсць *самаўсведамленне народа*, аб'ектываванае ў *культурнай традыцыі* і *актуальнай духоўнай творчасці*. Прысутнасць чалавека ў нацыі ёсць яго быццё ў кантэксце нацыянальнай культуры. Нацыянальная прыналежнасць ёсць вынік *свабоднага выбару*. Этнас ёсць прычына, нацыя — вынік, этнас — гэта карэнне і ствол дрэва, нацыя — яго крона, квітненне і плён. Няма абсалютнай тоеснасці паміж чалавекам этнічным і чалавекам нацыянальным. Для прыкладу, да беларускай нацыі *рэальна* належаць толькі нацыянальна ўсвядомленыя беларусы, а таксама прадстаўнікі этнічных меншасцяў, якія жывуць у кантэксце беларускай мовы і культуры. Тыя ж этнічныя беларусы, якія не ўсвядомілі сябе беларусамі і аб'ектыўна не жывуць у кантэксце беларускай нацыянальнай мовы і культуры, актуальна выпадаюць з нацыі, іх прыналежнасць да яе — толькі *эвентуальная*, гэта значыць, толькі магчыма пры пэўных сацыяльна-палітычных умовах. У гэтым асяроддзі ёсць рэзервы беларускасці. Бо фарысей і вораг хрысціянства Саўл можа стаць апосталам Паўлам. Але — не наадварот.

Такая ж банальная памылка ўзнікае тады, калі беларуская нацыя атаясамляецца з усімі насельнікамі Беларусі. Тут роля іншаэтнічных груповак неадназначная. Калі яны ўключаюцца ў моўна-культурны кантэкст тытульнай нацыі, тады гэтая роля творчая, канструктыўная. Калі ж яны займаюць варожую пазіцыю да гэтага культурна-нацыянальнага кантэксту, тады іхняя роля разбуральная. Бывае і так, што іншанацыянальныя меншасці жывуць замкнутаю абшчынаю, тады іхняя пазіцыя да нацыі нейтральная.

Мне могуць запярэчыць, што такое кантрастнае размежаванне нацыянальнай структуры насельніцтва не адпавядае вопыту нацыянальнай кансалідацыі еўрапейскіх дзяржаў і ў Злучаных Штатах Амерыкі (ЗША). Трэба пагадзіцца, што гэта сапраўды так. Але такая супярэчнасць тлумачыцца неаднолькавым гістарычным лёсам розных нацый. У Еўропе і ЗША ўнутраныя і вонкавыя фактары спрыялі нацыянальнай кансалідацыі; у Беларусі яны дзейнічалі ў кірунку перыядычнага разбурэння этнасу і нацыі. Напомню толькі пра апакаліптычныя катастрофы, не закранаючы частых ваенных рабункаў, пачынаючы ад настойлівых спроб ліквідаваць незалежнае Полацкае, Навагрудскае княствы, пазней Вялікае Княства Літоўскае — гэтыя правобразы дзяржаўнай Беларусі.

Вынікам расійскай агрэсіі 1654—1667 гг. у Беларусі стала дэмаграфічная і сацыяльна-эканамічная катастрофа. Паводле дакладных падлікаў гісторыкаў (Г.Сагановіч, У.Арлоў і інш.) быў загублены або вывезены ў палон кожны другі жыхар Беларусі, колькасць насельніцтва скарацілася на 55 %, у асобных гарадах — ад 70 да 90 % параўнальна з даваенным часам. Агульная колькасць насельніцтва скарацілася з 2 мільёнаў 900 тысяч да вайны да 1 мільёна 350 тысяч пасля вайны. Рэха гэтай катастрофы чулася ў канцы XIX — пачатку XX ст.: беларускія гарады і мястэчкі страцілі прыкметы беларускасці. Карэннае насельніцтва там складала 10-15 працэнтаў, да таго ж аказалася амаль поўнасцю выцесненае з ключавых пазіцый эканомікі, сацыяльна-палітычных структур і функцыянальных відаў культурнай дзейнасці. Такая сітуацыя аблегчыла расійскаму царызму татальную дэнацыяналізацыю Беларусі. Яна забараніла нават яе ўласнае імя. Пра тое, што Беларусь жыве і мае сваю родную мову, не горшую, чым расійская, польская, французская, Ф.Багушэвіч сказаў толькі за межамі імперыі — у кракаўскім выданні сваёй паэтычнай кнігі "Дудка Беларуская" (1891).

Сённяшнія лібералы — маладыя і сталага веку — апошнім часам ахвотна высмейваюць "беларускі менталітэт", і нават нацыянальнае Адраджэнне, не беручы пад увагу гістарычны лёс краіны і дэнацыяналізаваны характар сучасных структур, дзе беларуская нацыянальная эліта амаль поўнасцю адхілена ад кіравання эканомікай, культурай, а найбольш — ад усіх "паверхаў" дзяржаўнай улады. Беларусь фактычна засталася "адстойнікам" былой Расійскай імперыі і Савецкага Саюза.

Дарэчы будзе параўнанне "цёмнай" і "бязвольнай" Беларусі (такой яна бачыцца псеўдадэмакратам рознага ўзроўню) з Амерыкай (ЗША), якую выдаюць, магчыма, не без падстаў, за ўзор сучаснай дэмакратыі. Як вядома, амерыканскае грамадства фарміравалася як англійская калонія. У XVI — XVIII стст. там утварылася моцнае англасакскае этнічнае ядро, з яго выдзелілася энергічная эліта ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, адцяснўшы абарыгенаў на маргінальны ўзровень нейкага вялізнага этнаграфічнага музея. Шматнацыянальныя эміграцыйныя хвалі "паглыналіся" гэтым англасакскім уладным ядром. У яго катле пераварыліся мільёны гвалтоўна вывезеных з Афрыкі няграў, былых рабоў Новай гісторыі. Іншая справа, што гэтае ядро па прычыне сваёй этнічнай неаднароднасці ў перспектыве можа ўзарвацца, выклікаўшы татальны крызіс амерыканскай фінансавай імперыі. Але гэта — асобная і далікатная праблема; пакінем яе для амерыканскіх даследчыкаў.

Тут жа прывяду толькі адзін прыклад таго, як нялёгка было "натуралізавацца" ў ЗША, набыць там права грамадзяніна нават самым выбраным эмігрантам. У 1922 г. бальшавікі выслалі з Расіі слаўных дзеячаў рускай культуры. Сярод іх былі выдатныя філосафы і асветнікі Мікалай Бярдзяеў і беларускі шляхціц паводле радаводу Мікалай Лоскі (1870—1965), які, аднак, называўся "рускім польскага паходжання". За мяжой М.Лоскі набыў сусветную вядомасць як адзін з заснавальнікаў інтуітывізму і персаналізму ў еўрапейскай філасофіі. Служыў прафесарам у Празе, Браціславе, Парыжы. У 1946 годзе пераехаў у ЗША па запрашэнні Стэнфардскага універсітэта і Рускай духоўнай акадэміі. Праз пяць гадоў выпрабавальнага тэрміну яму дазволілі здаць строгі экзамен на права называць сябе амерыканскім грамадзянінам. Давялося "здаваць залікі" па англійскай мове, Канстытуцыі краіны і амерыканскім патрыятызме. Між тым М.Лоскі тады ўжо чытаў лекцыі па-англійску і апублікаваў брашуру — тлумачэнне Канстытуцыі ЗША. Па курсе нацыянальнай свядомасці яму было зададзена цікавае пытанне: які ўклад у абарону краіны вы зробіце ў выпадку ваеннага канфлікту ЗША з іншай краінай альбо кааліцыяй? М.Лоскаму тады было 80 гадоў. Славуты філосаф адказаў, што яшчэ мог бы паслужыць у прапагандысцкім аддзеле амерыканскай арміі.

А цяпер рытарычнае пытанне да тых, хто абражае Беларусь і беларусаў. Як фарміравалася беларускае "нацыянальнае" грамадства ў цяперашняй Беларусі? Дастаткова сказаць, што "патрыётамі" тут называюць сябе ненавіснікі беларускай мовы, незалежнай беларускай дзяржавы, ганіцелі былых і сучасных пакутнікаў за Беларусь, называюць тых *нацыяналістамі*, укладваючы ў гэтае паняцце адваротны яму сэнс. Пры гэтым сарамліва замоўчваецца галоўны гвалтаўнік ад першых цывілізацый да канца нашага стагоддзя — імперыялізм. Наўмысна забываецца аб'ектыўная семантыка гэтых слоў, яны міфалагізуюцца. Паняццю *нацыяналізм* прыдаюць адмоўнае значэнне ў сэнсе варожасці да іншых нацый, агрэсіўнасці. Між тым *нацыяналізм* суадносіцца з адваротным яму *касмапалітызмам* і абодва заключаюць пазітыўны, пераважна сацыяльна-псіхалагічны і духоўна культурны сэнс. Нацыяналіст — гэта той, хто камфортна адчувае сябе ў сваёй краіне і ў кантэксце сваёй нацыянальнай культуры; касмапаліт (грэчаскае *kosmopolites* — грамадзянін свету) камфортна жыве ў любой іншай краіне. Тоеснасць паміж нацыяналізмам і патрыятызмам толькі адносная. Можна любіць не толькі сваю нацыю, а праз яе ўсе іншыя нацыі; можна любіць *імперскую айчыну*, а такі патрыятызм блізкі да імперыялізму, які, дарэчы, — прычына ўсіх вядомых захопніцкіх войнаў — ад асірыйскага цара Аршурпаліпала і вавілонскага Навухаданосара да Сталіна і Гітлера. Дарэчы, гітлераўскі фашызм ёсць спроба аднавіць і павялічыць былую Германскую імперыю. Гітлер і яго нацыянал-сацыялісты былі імперыялістамі, а не нацыяналістамі. Агульнавядомая заява Гітлера напрыканцы вайны. Сэнс яе такі: калі нямецкая нацыя не пераможа, не ўтрымае аднаўленую германскую імперыю, то яна недастойна свайго фюрэра і *павінна загінуць*.

Імперыяліст і шавініст Гітлер памыліўся: Германія ў вайне згубіла імперыю, а ў дадатак — вялікія абшары ўласнай тэрыторыі (Прусію, Памор'е). Затое кансалідавалася як нацыя і сёння жыве на некалькі парадкаў вышэй, чым яе ўсходнія пераможцы, якія занялі частку нямецкай тэрыторыі.

Пяройдзем, аднак, да беларускай ідэі, гэта значыць да Беларусі ў яе трох вымярэннях — мінуўшчыны, сучаснасці і будучыні. Сёння некаторыя самадзейныя гісторыкі, палітолагі, публіцысты, айчынныя і замежныя — стварылі фальшывы партрэт Беларусі. Паводле іхніх малявідлаў, Беларусь і беларусы — нешта маргінальнае, пазбаўленае нацыянальнай і грамадзянскай самасвядомасці; негістарычнае, штучна створанае бальшавікамі альбо выпадкова набыўшае дзяржаўнасць пасля распаду савецкай імперыі. Нават паводле некаторых сур'ёзных навукоўцаў — сваіх, расійскіх, польскіх, нямецкіх і яшчэ нейкіх, — беларусы быццам бы не дараслі да сучаснай нацыі, быццам бы беларуская нацыя недаразвітая, нават праблематычная, а беларусы — нешта накшталт Вечнага Жыда, бяздомных яўрэяў, пазбаўленых сваёй айчыны.

Апошнім часам у псеўданавуковых опусах і на ўзроўні "фельетоннай культуры" з'явілася мода залічваць беларусаў да *жаночай нацыі*, пазбаўленай уласнае творчае волі і здольнай толькі на ролю этнаграфічнага матэрыялу для геапалітычных і культурных інтарэсаў моцных, *мужчынскіх* нацый. Відаць, аўтары гэтага дрэннага міфа чулі пра кнігу Отта Вейнінгера "Пол і характар", дзе ўпершыню абгрунтоўваецца такая тыпалогія. Але па ляноце не разгледзелі сутнасці ягонай канцэпцыі, паводле якой беларусы хутчэй за ўсё былі б залічаны да *рыцарскай* нацыі.

Я мог бы спаслацца на шмат прыкладаў гэтай псеўданавукі, прывяду толькі адзін — зачын артыкула нямецкага палітолага Астрыд Зам, з якой мне прыходзілася ўжо палемізаваць у часопісе "Нёман". Вось яе словы: "Беларусы ніколі не былі арганізаванай і агульнапрызнанай нацыяй. Самастойнай беларускай дзяржавы не існавала ажно да XX стагоддзя. Тэрыторыя сённяшняй Беларусі паперамення ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, Польскага Каралеўства, а таксама царскай Расіі, і ў выніку гэтага была месцам розных палітычных і культурных напластаванняў" [1].

Наіўнасць А.Зам анекдатычная: аказваецца, Беларусь уваходзіла як "тэрыторыя" ў склад самой сябе — Вялікага Княства Літоўскага, якое заснавалі і ўзвялічылі да магутнай сваёй дзяржавы якраз беларусы. Беларусь тут "не ўваходзіла", а была гэтым Княствам. Каб я быў такі ж наіўны ў гісторыі, як гэтая нямецкая дама, верагодна, добрая ва ўсіх адносінах, апрача свае "навукі", то мог бы сказаць: да аб'яднання Германіі ў другой палове XIX ст. не было германскай нацыі і дзяржавы; не было таксама Італіі да вызвольнай вайны і аб'яднання асобных гарадоў і княстваў; не было і Расіі да Пятра І, бо раней на тым месцы існавала спачатку Маскоўскае княства, а пасля Маскоўскае царства.

Справа, аднак, не ў назве, а ў той субстанцыі, якая хаваецца пад рознымі назвамі. Як кажуць у народзе: *назаві хоць гаршком, толькі ў печ не стаў*. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе не гаршчок, а гіганцкі імперскі кацёл, у якім спрадвеку перамешваліся народы і нацыі ў нейкія хімерныя этнасы.

Цяпер паспрабуем на аснове гэтага негатыву выявіць пазітыўны партрэт беларускай нацыі. Не намінальна (па найменні), а рэальна беларускі этнас сфармаваўся ў V—X стст., а беларуская дзяржава і развітая культура пачаліся ў эпоху Сярэднявечча (IX—XV стст.). У гістарычным развіцці яна прайшла ўсе агульнаеўрапейскія культурна-гістарычныя тыпы і стылі — рэнесанс, барока, класіцызм, рамантызм, эклектызм, мадэрнізм. У другой палове XIX — першай чвэрці XX ст. беларусы стварылі сваю класічную літаратуру. Тады ж закончылася станаўленне самабытнай нацыянальнай школы ў прафесійным мастацтве асноўных відаў і жанраў.

Дарэчы, Адам Міцкевіч у сваіх парыжскіх "Лекцыях пра славянскія літаратуры" (1840—1843), на самым пачатку адраджэння нашага прыгожага пісьменства казаў пра беларускую мову, што яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацаваная. А гэта, рабіў выснову геній з Навагрудчыны, сведчыць пра гістарычнасць нацыі і духоўную вышыню народа. Стварэнне за адносна кароткі час (канец XIX — 1920-я гады) нашай класічнай літаратуры бліскуча пацвердзіла прароцтва А.Міцкевіча.

Іншая справа — гістарычны лёс народаў, якім было наканавана выжываць у атачэнні агрэсіўных імперый. Тут была б дарэчы аналогія Беларусі з Ізраільскім царствам біблейскай эпохі, а не з сучаснай Еўропай і ЗША. Заціснутая паміж вялікімі імперыямі дзяржава дванаццаці ізраільскіх кален (рода-племянных саюзаў) пасля шматразавых расцярушанняў карэннага народа і засялення яго *зямлі абяцанай* іншаэтнічнымі масамі прывяло ў рэшце рэшт да знікнення палітычна кансалідаванай і лакалізаванай на сваёй айкумене ізраільскай нацыі. На месцы былой нацыянальнай дзяржавы ўзнікла калонія Галілея, сфармаваўся хімерны субэтнас *самаране* са "сталіцай" Самарыя. Адраджэнне яўрэйскай нацыі адбываецца толькі пасля ўтварэння Ізраільскай дзяржавы на спрадвечнай прарадзіме гэтага народа.

Сучасная Галілея — Беларусь — знаходзіцца на мяжы гэтай этна-нацыянальнай мутацыі, хоць пакуль што не пераступіла яе, бо захавала, праўда моцна разбуранае беларускае этнічнае ядро і нацыянальную эліту.

Ва ўсе гістарычныя эпохі стратэгія імперскіх заваёўнікаў была аднолькавая, адрозніваліся толькі метадамі ад першабытных (татальнае знішчэнне здольных да зброі мужчын, палон і асіміляцыя жанчын і дзяцей) да сучасных "ліберальных" формаў дэстабілізацыі (разбурэнне этнічнага ядра нацыі шляхам расцерушэння народа на прасторах імперыі, подкупу дэнацыяналізаванай часткі эліты і фармавання хімерных субэтнасаў). Беларусы захавалі ядро нацыі, перажыўшы *ваенны патоп* і дэмаграфічную катастрофу 1654—1667 гг., паланізацыю сацыяльнай эліты другой паловы XVII—XVIII стст., адкрытую русіфікацыю XIX — пачатку XX ст. Але моцна надарваліся ў дзесяцігоддзі прымусовай бальшавіцкай індустрыялізацыі і рабскай калектывізацыі; татальнага вынішчэння нацыянальнай эліты ў гады сталінскіх рэпрэсій.

Беларусы разам з украінцамі, літоўцамі і палякамі перажылі тры падзелы іхнай канфедэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай паміж трыма суседнімі імперыямі ў 1772—1795 гг. Расійскі ўрад і афіцыйнае рускае грамадства не хавалі сваёй геапалітычнай стратэгіі: падавіць беларускі і украінскі рух да самастойных нацый, дэфармаваць іх аж да ўзроўню субэтнасаў "адзінага рускага народа" з адзінай велікарускай мовай і культурай, а палякаў і літоўцаў "дацісныць" да ўзроўню васальных народаў (у Рымскай імперыі іх неяк здзекліва называлі "саюзнікамі"). Палякі перажывалі тады сваю нацыянальную драму, беларусы — сваю трагедыю з магчымым *лятальным* фіналам.

*(Працяг на стар. 13)*

[1] *Зам Астрыд. Белорусы: опыт самоидентификации. "Нёман", с. 136*

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

## "Я N Я"

**Нечаканае спалучэнне ці не праўда? Але менавіта яно вынесена ў назву першай кнігі паэзіі Марыі Можар, што пабачыла свет у "Беларускім кнігазборы". Хоць, гледзячы для каго нечаканае. Сама**



**М. Можар успрыме яго як звыклае, а таму натуральнае. І адштурхоўваецца пры гэтым ад радкоў Мікалая Забалоцкага "Я — разве только я?", якія вынесены эпіграфам да верша, што і падказаў загаловак зборніку, дарэчы, першаму ў творчым жыцці М. Можар — студэнткі Беларускага універсітэта культуры. А будучая спецыяльнасць яе — літаратурная работа.**

**Дык якая ж яна, лірычная гераіня М. Можар, паводле яе твораў?! Ды такая, якой і ўяўляе яе сама паэтэса. Свет, у якім яна жыве, шукае свой шлях да ісціны, у нечым расчароўваючыся, а штосьці набываючы, адпаведна — адпрэчваючы, гэта і свет самой аўтаркі "Я N Я". І не толькі аднаго верша, а і іншых, дзякуючы якім і ствараецца гэтая шматмерная прастора, у якой так шмат нечаканага, нават такога, што нярэдка не паддаецца звычайнай логіцы, аднак у той жа час і па-свойму прывабнага. Дзякуючы гэтай жа нечаканасці, алагічнасці, якая не проста перадае, а выпраменьвае паток пачуццяў, эмоцый, імпульсіўнасць настрою, што паўстаюць праз сутыкненне таго, што, здавалася б, у сваёй аснове несумяшчальнае, праз параўнанні, якія не проста ўзнікаюць, а ўрываюцца ў моўную тканіну верша:**

*Я — концентрат*
*чужих сущностей.*
*Я — емкость для слива*
*чужих забот.*
*Я — это не я.*
*Я — это даже не ты.*
*Я — это наглость*
*быть чужой совестью.*
*Я твой насильно*
*вставленный глаз.*
*Я — твой жалкий предлог,*
*подвернувшаяся случайность.*
*Я — твоя безнадежность попытки*
*быть почти лучше.*

**Марыя Можар свядома "бярэ агонь" на сябе. Яна часам прамаўляе тое, што ідзе насуперак усяму і ўсім, але ж гэта і магчымасць знайсці свайго чытача. Да чытача ў яе таксама сваё стаўленне, аб чым відаць з чацвёртай старонкі вокладкі кнігі, на якой змешчаны здымак аўтаркі і радкі прысвячэння: "Тебе посвящаю: // Только тебе. // Пусть в доме твоем // навечно поселиться // непредсказуемый Ангел Поэзии // мой сумасшедший читатель", якому захочацца і паспрачацца, а калі не паспрачацца, дык глыбока задумацца над прачытаным, знайсці тыя асацыяцыі, што існуюць падтэкстава і па-за тэкстам. І гэта будзе работа думкі — думкі ажыўленай пэўным вершам. Прынамсі, калі пазнаёмішся з гэтым прызнаннем: "Да, я не сеяла пшеницу. // Но и не я сеяла плевелы. // Вот оно, мое время, — время разбрасывать камни". Ці далучышся да такога верша:**

*Леонардо, твоя Джаконда*
*мыла мои полы.*
*Критик первым меня спровоцировал.*
*Царство ему какое-нибудь.*
*О, гениальнейший Данте,*
*твоя спираль кругов —*
*чудесное изобретение*
*для роликов и скейта.*

**Але ж гэта і добра, што кніга не проста чытаецца, а ўспрымаецца так неабыякава. А значыць — і зацікаўлена.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Не пустазеліцца моўная ніва

## НЕАЛАГІЗМЫ Ў "ПСАЛЬМАХ ДАВІДАВЫХ" Рыгора БАРАДУЛІНА

Хрэстаматыйныя характарыстыкі беларускай мовы як "самай гарманічнай, цудоўна распрацаванай", "такой жа людскай і панскай, як французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая", выразна падмацаваны творамі мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, навуковымі працамі, прававымі кодэксамі і статутамі, вуснай моўнай практыкай. Але ёсць і паняцце развіцця, якое ўласціва кожнай жывой мове не толькі ў перыяд яе станаўлення. Можна гаварыць пра папаўненне слоўніка мовы ў сувязі са зменамі ў грамадскім, палітычным, культурным жыцці. Гэта — аб'ектыўная заканамернасць. У той жа час некаторыя з'явы, прыкметы, неад'емныя ад нашага паўсядзённага, матэрыяльнага і духоўнага, жыцця і ўспрымання рэчаіснасці, могуць не мець аднаслоўнага выяўлення як у маладых літаратурных мовах, так і ў такіх, як "великий и могучий". Прыгадаем хоць бы слоўнік безэквівалентнай лексікі "Самабытнае слова", у якім яго аўтар Ірына Шкраба сабрала (і мае яшчэ вялікі матэрыял) жывыя беларускія словы, якім няма аднаслоўных адпаведнікаў у рускай мове. І пакуль твораць Майстры слова, узбагачэнне мовы не можа спыніцца.

Слова можа аднаўляцца ва ўжыванні, можа запазычвацца, падслухоўвацца ў носьбітаў жывой народнай гаворкі, а можа ствараецца на ўзор сабе падобных. Адмысловы моўны набытак — наватворы нашых пісьменнікаў, настолькі ўдалыя, настолькі арганічна беларускія, што толькі пасля марных пошукаў у літаратурных і дыялектных слоўніках пагаджаешся з тым, што яны — нованароджаныя. Гэта — залацінкі, дыяменты, што выраслі з нашых моўных нетраў, агранёныя Майстрам. Вышэйсказанае перш за ўсё характарызуе моватворчасць Рыгора Барадуліна. Можна з розных бакоў падыходзіць да моўнага багацця ягонай паэзіі: ён — прызнаны віртуоз слова, "кароль" метафары і параўнання, мастак меладычных, спеўных вершаў, выдатны знаўца жывых гаворак... Мы ж падыдзем да яго творчасці з пункту гледжання цвярозага лексікографа, занатоўшчыка і тлумача напісаных слоў. І першае, з чаго хочацца пачаць, гэта — неабходнасць складання Слоўніка мовы Барадуліна. Калі такая думка ўжо выказвалася, то тым большыя ёсць падставы для яе ажыццяўлення.

"Псальмы Давідавы" Рыгора Барадуліна ("Полымя", N 3, N 11, 1999 г.) даюць магчымасць уводзіць у шырокі літаратурны абыходак словы ўзвышанай экспрэсіі, якіх заўсёды трэба многа, столькі, каб магчы перадаць усю разнастайнасць, увесь спектр высокіх пачуццяў: пакланенне Богу і вечнасці, уласная нікчэмнасць і вялікая ўласная адказнасць перад веліччу Жыцця і Смерці, страх і раскайнасць за хібы, грахі і нязздзейсненае дабро.

**Магута́** — увасабленне найвышэйшай сілы прыроды, бязмежная, сусветнага маштабу моц і сіла, якой падуладнае ўсё. Наяўнасць магуты робіць яе ўладальніка магутным: магутны Бог, магутны атам, магутная сіла, магутнае слова... **Няіснасць** — рэальнасць, якая не мае матэрыяльнай формы існавання: "Цябе, як Пылінку няіснасці коўлую, З далоні свае не здзьмухне Магута". Народнай мове, мове твораў Якуба Коласа ўласцівыя словы **хібіць, хібны, хібнасць**, а **нясхібнасць** — наватвор Р. Барадуліна. Калі **хібны** — "адмоўны; памылковы", **схібіць** — "прамахнуцца; памыліцца", то **нясхібнасць** успрымаецца як "беспамылковасць; бязгрэшнасць", а з кантэксту і з гучання самога слова выцякае больш канкрэтнае значэнне — "стойкасць, непахіснасць у сваёй бязгрэшнасці, чысціні".

**Сподзеў, схоўня, дагода, знадакучыць** з'яўляюцца словаўтваральнымі сінонімамі аднакарэнных слоў, і ў нас пашыраецца выбар: **дагода** ці **дагаджанне, сподзеў (спадзеў)** альбо **спадзяванне, схоў** або **сховішча, схоўня, знадакучыць** ці **надакучыць**: "...не ў дагоду Сцежка з усходу, А ў халодную ноч вядзе", "Вычэрпвае дні мае скрухі рука, Дапаўшы да апошняе схоўні". Да прыметніка **спустошаны** цяпер будзе яшчэ і сінонім **спустынены (спустыненая душа)**, які выразна адлюстроўвае магутны лексічны і словаўтваральны патэнцыял беларускай мовы. Калі ў мове жыве слова **законнік**, то чаму б не быць **беззаконніку, выслужніку**, ужываных Р. Барадуліным, тым больш, што яны абазначаюць з'явы, вельмі пашыраныя ў грамадстве.

Назоўнік **шаноўцы** дарэчы папаўняе рад аддзеяслоўных вытворных з суфіксам -ц-: **абаронца, выканаўца, дарадца, здрайца** і г. д.

Трэба быць удзячным аўтару (не перакладчыку ў адносінах да мовы!) Псальмаў і за такія словы, як **неспасціжны** "які не спасцігаецца, які немагчыма спасцігнуць", **раскайнасць** "глыбокае, шчырае ўсведамленне сваіх грахоў", **зняверлівы** "пра таго, хто страціў веру, зняверыўся", **забыўлівы** "які хутка забываецца, знікае з памяці", што пацвярджаюць і практычна пашыраюць утварэнне прыметнікаў з суфіксамі -н-, -лів- ад зваротных дзеясловаў. Па сваіх значэннях такія прыметнікі адпавядаюць рускім дзеепрыметнікам *непостигаемый, разуверившийся, забывающийся.*

Ёсць у нашай мове словы *красавацца, буяць* у прамым і пераносным значэннях, а слову з антанімічным значэннем даў жыццё Барадулін: "На ўсё стае бязбожных, Бо праз іх Нікчэмнасць узвышаецца пыхліва. І пустазеліцца людская ніва"... Мы прывыклі, што пустазеллем называюць дзікарослыя расліны, якія засмечваюць пасевы культурных раслін, а часам так могуць сказаць пра непатрэбнага, шкоднага чалавека. Думаецца, барадулінскі дзеяслоў **пустазеліцца** "поўніцца пустазеллем" будзе падхоплены журналістамі, пісьменнікамі-публіцыстамі як дыхтоўнае папаўненне эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі. Падобныя зваротныя дзеясловы могуць узмацняць, абвастраць значэнне, выражанае матывавальным назоўнікам, і такая выяўленчая магчымасць гэтай катэгорыі дзеясловаў выкарыстоўваецца Барадуліным: **ценіцца цень, сумёціцца смецце, зорац-**

# Памяць пра паэта

На вялікі жаль, Эдуард Грахавец памёр. А я нейкім чынам яшчэ жыву. І — добра. Ёсць каму ўспомніць ды пачытаць таго ж Эдуарда Грахаўца. Нас не так многа. І не большае...

Калі мне паказалі кніжку гэтага паэта з Лагойшчыны, я не ўспрыняў яго імя як незнаёмае. Чамусьці адразу, амаль відочна, выявіліся ў маёй памяці адзін ці два яго вершы недзе некалі прачытаныя... Нечым жа яны ў свой час уразілі мяне, а чым — канкрэтна не помню, мабыць, сваёй унутранай адзінотнасцю, бо і ўяўляліся не нізкаю і не кніжкаю, а менавіта некалькімі вершамі, за якімі й "хаваўся" іх самотны аўтар. Ні пэўнасці творчай, ні выбітной асобасці — проста выпадковы правінцыйны паэт, імя якога чамусьці запомнілася па адной выпадковай публікацыі. Бывае...

Можа, таму не выклікала асаблівага здзіўлення, а толькі падкрэсліла небеспадстаўнасць маёй памятлівасці, і прадмова Ніла Гілевіча, пад рэдакцыяй якога гэты зборнік Эдуарда Грахаўца і быў выдадзены.

Адразу заўважу, што ў прадмове *народнага паэта Беларусі* залішне многа непатрэбнай паблажлівасці да аўтара. Вядома: пра нябожчыка — альбо добра, альбо нічога. Дык гэта пра нябожчыка. А пра паэта і паэзію? Пра тое трапна напісаў у яшчэ адной прадмове да гэтага зборніка сябар аўтара Юрась Гацкевіч: "Імёны паэтаў не акантоўваюцца жалобнымі рамкамі. І гэта правільна. Покуль мы чытаем іх вершы — яны жывыя, яны побач з намі".

Без усякай паблажлівасці скажу, што кніжка Эдуарда Грахаўца "Вяртанне" ў аснове сваёй ёсць актам паэзіі. Рукапісам душы... Споведдзю...

І вось тут перад намі паўстае загадка творцы. Эдуард Грахавец, ужо ўведаўшы страшны прысуд дактароў, не толькі працягвае мужна *дажываць* угатаваны яму лёс, але зноў пачынае пісаць вершы, на якія ўжо быў калісьці махнуў рукою. (Не друкавалі.) Ды менавіта на вершы, відаць, меў ён вялікі спадзеў, хоць *заставаліся* ў яго *тут*, на зямлі, і любімая жонка, якой вершы і прысвячаліся, і двое выгадаваных сыноў, і шмат якіх добрых людскіх спраў, што пакідаў пасля сябе... А галоўнае, *заставалася* ВЕРА ў *высокае мастацтва* і ў яго неўміручасць, і адпаведна — ВЕРА ў несмяротнасць чалавечай душы і ў сам паднебны *дух* усяго жывога, якіх ён і абраў для сябе найпершымі абаронцамі ад знянацку заспеўшай небяспекі і адзіна магчымымі прадаўжальнікамі свайго жыцця...

***Змоўкну, сцішуся й вачамі***
***Буду з небам гаварыць,***
***І вялікае маўчанне***
***Мне адказам можа быць.***

Як на маю думку, дык гэта па-цютчаўску, зверху вычутыя, ні з чым не параўнальныя радкі. Класічна-вусцішныя... Такое велічнае паднебнае маўчанне і такая неабсяжная прастора для *жыцця*, але — ужо *там...* Безумоўна, што гэткая бяздонная і невядомая прастора запалохвае чалавечую істоту, але, у той жа час, і дае падставу для *апошняй* пэўнасці: хопіць *там месца* і для цябе...

***Можа, ад таго, што многа месца там,***
***Жураўлі не ведаюць, як быць.***
***Вось бы мне адгэтуль***
***з добрай весткаю***
***З імі ліст мой да цябе пусціць.***

Альбо:

***Дзяцел у цішу***
***Цвікі забівае.***
***Скончыць і ўсё —***
***І цішэй не бывае...***

Цікава, што чатыры апошнія радкі былі напісаныя яшчэ напярэдадні цяжкай хваробы. Аднак якое прадчуванне, якая прарочасць сапраўднага паэта да свайго выраку! Можна толькі здагадвацца, якім чынам чуліся і ўяўляліся паэту за два гады да ўласнай смерці гэтыя, сцінаючыя жывую чалавечую душу, стукі пры забіванні цвікоў, пасля якіх і абрынаецца на нас тая вечная і непарушная *ціша...* Такіх вершаў у зборніку нямала. Якое, скажыце, сэрца не захалане, прачытаўшы, да прыкладу, і вось гэтыя, таксама напісаныя напярэдадні ўласнай драмы радкі.

***Вось і я нарэшце мяняюся,***
***Разыходжуся-размінаюся***
***Убаку ад вачэй, тайком***
***Сам з сабою, нібы з двайніком.***
***Міг расстання, як выстрал крохкі —***
***І ўжо ззаду згасаюць крокі.***
***Азіраюся і пытаюся***
***Я ў таго, што пайшоў ад мяне:***
***— Яшчэ вернешся? Ці ўжо не?..***
***Ён пайшоў і не адазваўся,***
***Толькі свет увесь загайдаўся.***

Якім бы вялікім ні быў чалавек па сваім таленце і мудрасці, а ўсё ж і ён драбнее і ніякавее перад прывідам уласнага скону і ўявай сваёй адзінамагчымай сустрэчы з *жывым* Богам... (Адна справа разважаць пра *Яго*, будучы ў моцы і сіле, і зусім іншая — паўстаўшы перад смяротнай цемрай). Тут дарэчы было б прыпомніць і шчымлівыя, але не роспачныя, *радкі журбы з бальнічнага барайлянскага сшытка* Еўдакіі Лось. Ці вось гэтую класічную цытату са Сцяпана Гаўрусёва.

***Чорны воран, белы лебедзь —***
***Хто адолее з дваіх?***
***Першы рукі мне сашчэпіць,***
***А другі — разніме іх.***

У некаторых вершах Эдуарда Грахаўца можна нават візуальна прасачыць міжвольную заемнасць — і ў змесце, і ў стылістыцы — у добра вядомых нам як рускіх, так і беларусіх паэтаў. Максім Багдановіч, Аляксей Кальцоў, Іван Нікіцін... Відаць, гэтыя паэты і лёсам сваім і духам былі блізкія яму. Прачытаеш у яго, да прыкладу, такое: "Я спаў вельмі чуйна — // Жар грудзі смаліў", і па асацыяцыі ўспамінаеш вельмі знаёмыя, хоць і даволі даўнія радкі з класічнай паэзіі. Матывы развітання з жыццём і разам з тым непазбыўная прага да гэтага жыцця разлітыя, як кроў па капілярах чалавечага арганізма, па ўсіх старонках паэтычнага зборніка. Асабліва ўражваюць сваёй аскетычнай эмацыянальнасцю — не слязлівасцю, а даўкім камяком у грудзях — прысвячэнні-споведзі любімай жанчыне. Для параўнання значнасці радкоў Эдуарда Грахаўца адразу працытую страфу з перадсмяротнага верша Івана Нікіціна, прысвечанага Н. Е. Мацвеевай.

***Догорела свеча. Бродит сумрак в углах,***
***Пол сияет от лунного света;***
***Бесконечная ночь! В этих душных стенах***
***Зарыдай — не услышишь ответа...***

А гэтыя радкі Эдуарда Грахаўца прысвечаны ягонай жонцы Зінаідзе. І, бясспрэчна, гэта якраз той выпадак, калі Паэзія не патрабуе аніякіх каментарыяў і тлумачэнняў збоку.

***З праху я ўстану і зоркаю***
***ў неба ўскачуся***
***Ў час, як над лугам***
***і вёскай дыміцца туман.***
***Нізенька, блізка дарогі ў туман апушчуся,***
***Буду чакаць цябе кожнаю хвіляю там.***
***Ты ж, як бывала ў нас,***
***рупная выйдзеш на ганак.***
***Пойдзеш дарогай праз луг,***
***дзе старыя брады.***
***Покуль у небе, як знак,***
***не зардзеецца ранак,***
***Буду з нябёсаў красой любавацца***
***тваёю тады.***
***Ды на звароце, цябе абганяючы мігам,***
***Блізка дарогі, на ўзлессі, ў траву я ўпаду.***
***Ты ж, як ішла, так і пойдзеш,***
***Мяне пакідаючы, міма,***
***Можа, й не звернеш увагі на зорку,***
***што ўпала ў траву.***

А яшчэ вершы Эдуарда Грахаўца прасякнутыя любоўю да Айчыны і да яе людзей. Ён — паваенны сірата — *памятае* мінулае,

---

*Эдуард Грахавец. "Вяртанне" (выбраныя вершы), Мінск, ТАА "Лекцыя", 2000.*

ца зоры. **Пяшчоціцца** таксама не фіксуецца слоўнікамі і картатэкамі: утворана яно ад цудоўнага беларускага слова **пяшчота** (пар. **маркота — маркоціцца**). **Пяшчоціцца** блізкае па семантыцы да **песціцца**, але той, хто пяшчоціцца, не толькі карыстаецца нечай ласкай, цешыцца спакоем, бестурботнасцю (**песціцца**), але і сам праяўляе ласкавасць, замілаванне, адданасць: "Пяшчоціцца ў расінцы Сонцу люба, і ўтульна роспачы На дне слязы". А хіба можна застацца раўнадушным да выразу **клямчацца дзверы** — абзываюцца стукатам клямкі? Пашыраецца ўжыванне прыметніка **прысталы** "які змогся, стаміўся" як вытворнага ад прыстаць "стаміцца, змагчыся", а выраз з Псальмаў **прысталыя крокі** дапамагае ўявіць вобраз стомленага пілігрыма каля елкі-скініі.

Шырокае ўжыванне ў розных моўных сферах могуць мець такія словы, як **абніжацца, пахібіць, адлетуценіць, угарбець, зімець, наахапчыць. Абніжацца,** напрыклад, дапамагае зрокава ўявіць, як тое, што паніжаецца, накладваецца на ніжэйшае, ахоплівае яго; таму гэта не проста сінонім да **паніжацца**, а семантычна больш ёмкі адпаведнік. **Удабраволіцца** — удалы пераклад ст.-сл. *соблаговолить*.

**Вельмавацца, кунежна** можна аднесці да дыялектных слоў, узведзеных аўтарам у разрад узвышанай лексікі: "І з цеста пячэцца трывалы хлеб, Якому на абрусах вельмавацца".

**Вельмавацца** — "быць у вялікай пашане, пачувацца вяльможна; займаць пачэснае месца" — быццам бы не мае ў літаратурнай мове такога ж эмацыянальна насычанага адпаведніка.

Зазначым, што ст.-сл. *благословенный* Барадулін перакладае як **багаслаўлены**; такі ж пераклад быў і ў Ніла Гілевіча. Відавочна, у пэўных кантэкстах **багаслаўлены** "услаўлены Богам", "слаўны Богу" будзе вельмі дарэчы.

Намі названа толькі частка аўтарскіх наватвораў, але ўсе яны выраслі на **тушчай** беларускай глебе, зразумелыя і стылёва патрэбныя. Дык будзем жа чытаць, вучыцца і карыстацца падараванымі нам моўнымі скарбамі!

**Г. ВЕШТАРТ,**
**дацэнт кафедры беларускай мовы**
**Інстытута мовазнаўства**
**імя Якуба Коласа НАН Беларусі**

---

*клапоціцца* пра надзённае, *хвалюецца* за будучае. Ён *жыве* чалавекам: працуе шафёрам, вучыцца, настаўнічае, любіць і ненавідзіць... І толькі пасля, у хвіліны начной аддушыны, спрабуе начыста спісваць натхнёныя радкі з чарнавіка *спрацаванай* душы... А што Эдуард *быў* тонкім лірыкам, гавораць нам сёння і гэтыя яго радкі, якія я, прабачаючыся, запісваю не лесвічкай, як было ў яго, а наўпрост.

***I весне. I траўна. I рэчка, і лотаць.***
***I сонца. I неба. I гэткі спакой,***
***Што хочацца ўзняцца і лётаць, і лётаць,***
***Хаця б парушынкай ці мошкай якой...***

Жыць хацелася неймаверна! Жыццё *забірала* яго ўсяго і *не адпускала* да самай смерці...

Пасля галоўнага героя гэтай кніжкі, Эдуарда Грахаўца, не апошнюю ролю іграе ў кантэксце як саміх вершаў паэта, так і яго жыцця ўвогуле, *Белы Конь*. І вось тут ужо без тлумачэння не абысціся. У зносцы да аднаго з апошніх сваіх вершаў Грахавец піша: **"Гэты верш прысвечаны рэальнаму факту, калі блакадай нас усіх вясковых немцы пагналі да лесу, каб выбраць і расстраляць партызанскія сем'і. Выручыў Белы Конь, які прымчаў цераз поле, як на крылах. На ім сядзеў немец, які тут жа даў загад — не расстрэльваць..."** А сам верш мае *нетрадыцыйную* і *невытлумачальную* нават для сучаснага чытача канцоўку.

***Колькі год прайшло і сёння***
***Я не ведаю ані:***
***Ці ад Бога быў той коннік,***
***Ці то Бог быў на кані.***

Гэты *конь*, як выратавальнік, як своеасаблівы пасланнік лёсу, *пралятае* праз такія вершы паэта, як "Белы коннік. Белы конь", "Пагоня" і шмат якія яшчэ. Шматкроць *мільгае* па старонках *яго* фатальны вобраз ажно да перадсмяротных радкоў:

***Дзе мая хата — мамін парог?***
***Наша палата — белы астрог.***
***Хто б мяне вылечыў, хто б дапамог?***
***Кажа мне лекар: "Павер, я не Бог".***
***Думаю думу днём і ўначы:***
***Як жа з таго мне астрога ўцячы?***
***Добра мне помніцца, шчэ ад вайны,***
***Конь снежна-белы, што вынес з труны.***
***Цепліцца ў сэрцы прысак-агонь...***
***Дзе ж ты пасешся, белы мой конь?***

Але — на гэты раз — дарма... Не прыскакаў, не выратаваў... Не стае коней і вершнікаў, не чутно вызвольнай пагоні... Канаюць паэты...

Зрэшты не зусім так. Памёр бо чалавек, Эдуард Грахавец. А што да паэтаў, то вернемся, як і ўсё існае пад гэтым сонцам, да свайго пачатку і яшчэ раз працытуем Юрася Гацкевіча: "Імёны паэтаў не акантоўваюць жалобнымі рамкамі. І гэта правільна. Пакуль мы чытаем іх вершы — яны жывыя..."

І мы — чытаем, пакуль жывыя...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

---

УРАЖАННЕ

# Прычасце Тармолы-Мірскага

На вокладцы гэтай кнігі — сем буслоў у паднябесным блакіце. Праз віхуры зменлівага часу, праз праклён невідушчых і абыякавых упарта ляцяць яны з Беларусі на Беларусь. І палёт гэты бясконцы і несупынны, як бясконцае і несупыннае святло непадманнага паэтычнага радка. Сем буслоў... Шчаслівая лічба? Сем год аўтар чакаў выдання зборніка "Прычасце". За публікацыю асобных вершаў у перыёдыцы паспеў атрымаць некалькі літаратурных прэмій. І вось днямі кніжка пабачыла свет. Дык ці варта заглыбляцца ў асэнсаванне магіі лічбаў, ці варта ламаць галаву над пытаннем: што прыемней падлічваць — зоркі ці грошы? Крый Божа! Гэта справа астролагаў і бухгалтараў! А лірная праца заўсёды вымагае іншага: пастаяннай працы духу і душы. Западнябесныя катэгорыі? Так! На асэнсаванне іх здольны толькі той, хто з'яўляецца часткай Паэзіі і служыць высокай справе духоўнага адраджэння і ўдасканалення...

Кніга выйшла. З'ява адбылася.

Прычасце — таінства, у час якога на верніка сыходзіць боская любата і хараство. "Прычасце" Тармолы-Мірскага гэткага ж вытанчанага кшталту. Даверлівасуцішная гаворка верніка з вернікам, з **намі** пра **нашае**.

***Прывучаныя быць спрадвек***
***натоўпам,***
***Нялёгка мы вяртаемся***
***ў народ...***
***За гэта ў твар нам тыцкаюць***
***Еўропай,***
***Як быццам бы не ў ёй***
***наш агарод.***

***Гаротную нам прапісалі долю —***
***Што ўсе мы бульбашы***
***ды кавалі,***
***Хаця у нашага Скарыны школе***
***Вучыліся калісьці каралі.***

***Лягчэй за ўсё аблаяць***
***пустазвонаў***
***I фактамі падрэзаць языкі...***
***Ды факт, што беларускую***
***карону***
***Прымерваюць***
***не тыя мужыкі...***

"Прычасце" пачынае жыццё. А дагэтуль былі і паэтава хрышчэнне і паэтава споведзь. Споведзь даўжынёй у жыццё. І важкімі словамі-радкамі яе ўпэўнена і ўпарта даходзілі да чытача зборнікі "Асколкі і росы", "Поўня", "Абнаўленне", "Міранка", "Побач", "Павага", "Зямное — зямному", "Вобразы вечара", "Толькі б гаварыць", "Спрадвечнасць"...

Паэтычнай кладкай — мастком звязалі яны шасцідзесятыя з двухтысячнымі. А на парозе — новае стагоддзе, і душа зноў не знаходзіць адхлання.

***Самоціцца душа, баліць,***
***Што столькі мараў***
***не збылося...***
***Як і не жыў я на зямлі,***
***А ўжо ад нежыцця знямогся.***

Але душа для таго і існуе, каб чалавек заставаўся чалавекам, грамадзянін — грамадзянінам, паэт — паэтам. І нараджаюцца чарговыя радкі. Як? Хто ж, апрача Бога, ведае дакладна. "Яны прыходзяць са слязамі альбо са смехам сярод слёз"...

У анатацыі да кнігі "Прычасце" пазначана, што "Метафары Р. Тармолы-Мірскага выклікаюць добрую зайздрасць і павагу да Чалавека-паэта, Чалавека-наватара. Творчая сіла аўтара працуе і будзе працаваць на Адраджэнне"... Цяжка не пагадзіцца.

***Мы згубілі спраў вялікі сэнс***
***Лоб разбіўшы***
***аж аб іх нязбытнасць,***
***Не даём і грошыка за бітых,***
***Тры сасны для нас —***
***ого ўжо лес.***

***Хто толькі наперад нас***
***не вёў!***
***Што толькі ўжо нас***
***не павучала!***
***Карабель жа —***
***ля таго прычала***
***З грузам тых жа перспектыў***
***і слоў.***

Сумленне жывіцца духам. Дух спараджае душа. На ёй трымаецца сусвет. І паэтычны радок, як бязважкае пёрка з буслінага крыла, лунае над Беларуссю ў пошуках Беларусі.

***Даруй нам, неба,***
***літасць і спагаду.***
***Цяпер душа не варта***
***ні граша,***
***Хаця яна — то воблачка***
***над садам,***
***То неабдымная,***
***нібы зямшар.***

...Кніжка "Прычасце" выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" накладам 1200 асобнікаў.

**Я. РАГІН**

РАМАН ТАРМОЛА-МІРСКІ
ПРЫЧАСЦЕ

---

# Храм для анёла

Аўтар даў назву кнізе, зыходзячы са сваёй любові да народных традыцый: калісьці ў радно спавівалі немаўлят, апраналі памерлых у апошні шлях. Да таго ж, гэтае слова блізкае па сэнсе да іншых, таксама сакральных для паэта, — Радзіма, роднасць, радня.

У кнізе Эдуарда Акуліна "Радно" можна заўважыць, што яго паэтычнае светаўспрыманне узбагацілася новымі фарбамі. Вобразы Храма як увасабленне ўсяго святога і анёла, які гэтае святое здзяйсняе або з ім асацыіруецца, з'яўляюцца для паэта шматзначнымі.

Храм — жытло Бога (як, напрыклад, Полацкі Сафійскі сабор з верша "Сафія"). Але Бог у паэта ўсё ж такі "ў душы, а не на небесі..." ("Чарнобыльскі год. Май").

Храм — гэта і любімая, неўладкаваная, абруселая Радзіма —

***...мая Юдоль,***
***пекла з Богам і вырай***
***з чортам.***
**"Я хацеў бы пісаць, як жыву..."**

Храм для Э. Акуліна — гэта і Паэзія, — яго ўласная і яго літаратурных настаўнікаў:

***Ні свечку, ні кветку, а кнігу***
***Паэту ў труну пакладзіце,***
***з якой ён да Бога паціху***
***па выстылых воблаках прыйдзе...***
**"Ні свечку, ні кветку, а кнігу..."**

Храм — гэта і ўзнёслае пачуццё да жанчыны, паколькі

***каханнем выжыве паэт***
***I будзе вечна жыць каханнем!***
**"Каханнем скрозь паэт жыве..."**

Вобраз анёла — таксама шматзначны.

Па-першае, гэта вобраз лірычнага героя кнігі, пад якім крыху нясціпла хаваецца сам аўтар:

***Анёл з адным крылом,***
***але якім — гітарным!***
**"Чакаю цішыні..."**

Гэта і "чарнобыльскі анёл", які ўвасабляе сабой нашу экалагічную бяду. Э. Акулін бачыць першапрычыну з'яўлення гэтай Божай кары ў тым, што беларускі народ выракся сваёй мовы, нацыянальнай сімволікі, сваіх гістарычных каранёў ("Яно").

Гэта і драўляны анёл батлейкі — лялечнага тэатра, у якім іграюцца спектаклі пра жыццё біблейскіх персанажаў ("Батлейка").

***Анёламі паэту здаюцца і аблокі:***
***Адплывалі аблокі за богавы***
***светлыя вочы,***
***нібы гурма анёлаў —***
***успененай хваляю крыл...***
**"Прадчуванне"**

Прыемна ўражвае таксама спектр жанравай разнастайнасці вершаў Э. Акуліна. Услед за сваімі літаратурнымі кумірамі аўтар імкнецца такім чынам вывесці беларускую паэзію на сусветны ўзровень, засвоіць у сваіх вершах жанры, якія прыжыліся ў замежнай літаратуры.

Свае жанравыя эксперыменты паэт пачаў ужо ў першых кнігах — "Пяшчота ліўня" (1990) і "Крыло анёла" (1995). Там сустракаюцца творы, напісаныя ў такіх паэтычных жанрах, як прысвячэнне, ронда, актава, трыялет, тэрцыны, туюгі, віланэль, рытурнэль, элегія, канцона, газэля, таўтаграма, раманс і нават акрапаэма. А ў кнізе "Радно" Э. Акуліна ёсць творы-прысвячэнні (М. Багдановічу, светлай памяці прабабулі Вольгі, Д. Бічэль-Загнетавай), пасланні (Н. Гілевічу, Б. Пятровічу), таўтаграма ("Голас галінавых глосаў..."), брахікалон ("Змрок..."), балады "Балада пра вясковага Ікара", "Балады пра затопленае вядро", ("Балада пра незапаленую свечку", "Балада пра рыцара Здрады", "Балада пра кожнага першага").

Для фарміравання асобы кожнага паэта істотным з'яўляецца асэнсаванне ўплыву на яго свядомасць творчасці яго літаратурных настаўнікаў. Сярод іх аўтар "Радна" называе Францішка (Багушэвіча), Максіма (Багдановіча) і Янку (Купалу) ("Стаю на цвінтарным ганку..."). Захапленне жанравай разнастайнасцю прыйшло да паэта праз азнаямленне з творчасцю М. Багдановіча і Р. Крушыны. Імкненне аўтара да максімальнай метафарычнай насычанасці радка, відавочна, ад Р. Барадуліна. Апошняе бачна, напрыклад, у такіх пейзажных радках Э. Акуліна:

***Рукі, як адхуканыя птушкі,***
***для якіх кішэні сталі гнёзды.***
***Вецер рой сняжынкавы загушкаў.***
***Вуллі хат — мішэні для Марозу.***
**"Зіма"**

У філасофскай лірыцы паэта ёсць "вершы аб рэчах", у якіх адлюстраваныя аўтарскія асацыяцыі адносна зрокавага падабенства і натуральных лагічных сувязей адных прадметаў з другімі ("Купіна", "Човен", "Валун", "Парог", "Гужы"). Гэтыя творы напісаны Э. Акуліным у выглядзе традыцыйнага рыфмаванага верша, у той час як "вершы пра рэчы" А. Разанава — гэта вершаказы — "гука-асацыяцыі" ("Камень" з кнігі "У горадзе валадарыць Рагвалод" (1992) і "Лейцы", "Хамут", "Купіна" з кнігі "Паляванне ў райскай даліне" (1995). У У. Арлова гэта вершы ў прозе ("Човен" і іншыя з кнігі "Там, за дзвярыма" (1991), у В. Шніпа — верлібры ("Хата", "Парог" і іншыя ("ЛіМ", сакавік 1999). Пра філасофію рэчаў, якой насычаны творы вышэйзгаданых аўтараў, добра сказаў А. Разанаў: "У рэчах назапашваецца рэха чалавечых думак..." ("Рэчы").

Райскі сусвет інтымнай лірыкі Э. Акуліна можна параўнаць хіба толькі з Дранько-Майсюковым. Тут ёсць як цнатлівыя развагі пра ўзаемаадносіны лірычнага героя з яго лірычнымі пасіямі, так і захапленне эратычкай жаночага цела і паэтычнае апісанне актаў "адзінства і барацьбы" чалавечых супрацьлегласцяў — мужчыны і жанчыны, своеасаблівая Песня Песняў" паэта (нізка вершаў "Эра Сноў"):

***Я сумую па нас былых.***
***Па цунамі з лагуны улоння,***
***па світальных руках тваіх —***
***майго сонца патухлых промнях...***
**"Я сумую..."**

Можна сказаць, што Э. Акулін і традыцыяналіст, паколькі пераймае лепшыя дасягненні сваіх літаратурных настаўнікаў, і наватар, паколькі прынёс у сучасную літаратуру новы жанр — акрапаэму, новыя метафары, свае наватворы (*ня*бесны *сінявір* ("Лістапад"), *лёсахрэсніца* Восень, *увырайлётныя* гусі ("Пілігрым") і інш. Вершы гэтага аўтара чаруюць сваёй меладычнасцю, багатай маляўнічай вобразнасцю і шырокім спектрам жанравых форм.

Але ёсць у творах паэта асобныя агрэхі, якія "рэжуць слых". Напрыклад, асобныя "аўтарскія" склонавыя канчаткі, якімі былі замененыя нарматыўныя "дзеля рыфмы": "схільная да капрыз" (замест "да капрызаў"), "на ружовых пялёстках вуш" (замест "вушэй"), "на зайздрасць мясцовым багом" (замест "багам"). Не зусім прыдатныя для паэтычнага твора, на мой погляд, наватворы "эротпарасон" ("Эрагенная зона") і "бермудфіліял ракі" ("Нерат"). Таксама здаецца немэтазгодным ужыванне размоўнага "юргіня" замест літаратурнага "вяргіня" ("Лівень") і жаргонных слоў "фано" "фартэпіяна" ("Паўночны пакой") і "маг" — "магазін" ("Балада пра затопленае вядро").

Але гэтыя невялікія хібы — кропля ў моры сапраўднай эмацыянальнай і шчырай паэзіі.

**Таццяна БАРКОЎСКАЯ**
**(Барысюк)**

*Э. Акулін "Радно", "ПаліБіг", 2000*

# “Выбраныя вершы”

**Пра Віктара Шведа “ЛіМ” пісаў неаднойчы і на тое ёсць падставы: ён займае годнае месца ў кагорце беластоцкіх літаратараў, выдаваўся і ў Мінску, а да ўсяго працуе ў розных жанрах. Аднак перадусім — паэт. А які паэт В. Швед — лішні раз можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з яго кнігай “Выбраныя вершы”, што стала трыццатым зборнікам “Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, якая выдаецца ў Беластоку. Як сведчыць аўтар прадмовы “Душа паэта” Яўген Міклашэўскі, гэтая кніга — “паэтычны дзённік, дзённік паэта, у якім ён у форме вершаў занатоўвае ўсе свае назіранні — ад успамінаў пра казачна-шчаслівыя дні бясхмарнага дзяцінства да чалавечых**

Віктар Швед

Выбраныя вершы



**перажыванняў і шкадаванняў, выкліканых непазбежным прыходам дажджлівай і невясёлай пары сталасці, скрухі і пакутлівага роздуму, няўмольнага разбурэння чалавечай асобы самім жыццём”. Застаючыся ў паэзіі традыцыяналістам, В. Швед не шукае нечаканых параўнанняў, не знойдзеш у яго ўскладнёных паэтычных канструкцый. Ён прамаўляе проста, але гэта не спрошчанасць. Ён, на першы погляд, не робіць якіх-небудзь адкрыццяў, але прываблівае ўнутранай цеплынёй радка, шчырасцю інтанацый. Паэзія В. Шведа — у чымсьці паэзія “ціхай лірыкі”, і ўся яна саткана з любові. Да зямлі, на якой паэт нарадзіўся і жыве. Да людзей, з якімі ён поруч. Да таго адзінага чалавека, стасункі з якім заўсёды выклікаюць самыя светлыя пачуцці і найлепшыя спадзяванні. Да ўсяго зямнога жыцця. А вытокі гэтай любові на Беласточчыне, якую хоць В. Швед называе “маёй маленькай айчынай”, убірае ў сябе так шмат, што дзіву даешся, як можна пісаць па сутнасці пра адно і тое ж і пры гэтым не паўтарацца. А яшчэ паэт называе Беласточчыну “мая зялёная Зубровія”, даўшы такую назву і аднаму з вершаў:**

*Мая зялёная Зубровія,*
*Ты ужо стаяла над магілаю,*
*Цябе хаваць былі гатовыя,*
*А ты ўваскрэсла з новай сілаю.*

*І быццам Фенікс адрадзілася,*
*Квітнееш краскай васільковаю.*
*Ты сёння зноўку мне прыснілася*
*Мая зялёная Зубровія.*

**І душу пастаянна цягне туды, дзе карані, вытокі: “Калі я еду на Радзіму, // Мінаю толькі Беласток, // Як земляка свайго, гасцінна // Мяне вітаюць тут здалёк. // А чым бліжэй да роднай хаты, // Тым даражэй бацькоўскі кут. // І нат у цягніку дзяўчаты // Мне прапануюць месца тут” (“Мой народ”). Гэта, аднак, не значыць, што В. Швед абыходзіць тыя складаныя рэаліі, якія склаліся сёння і на Беласточчыне. А ў выніку нарадзіўся верш “Беларусы баяцца беларусамі звацца”. Праблема, узнятая ў ім, надзённая і для Беларусі:**

*Лаўлю я вухам, шукаю зрокам*
*Беларусаў у Беластоку.*
*І ў душы мне становіцца горка,*
*Нідзе не чую роднай гаворкі,*
*Быццам папала ў нейкую пастку*
*Жыхароў горада трэцяя частка.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Хоць афіцыйна няма прымусу,*
*Няма адважных быць беларусам.*
*Большасці раптам сталі баяцца,*
*Беларусамі публічна звацца.*

**У кнізе дванаццаць раздзелаў, аб’яднаных тэматычна: “Пражыў я тут жыцця палову”, “Лёс складаны Беларусі”, “Мая маленькая айчына”, “Майго жыцця святыня Мора”, “Бацькі адзіныя на свеце” і іншыя. Дванаццаць прыступкаў, што вядуць у храм паэзіі В. Шведа.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Пятро ПРЫХОДЗЬКА



# Мае карані

## Пытанні і адказы

*Само жыццё нам задае пытанні —*
*Ў якой краіне кожны жыць бы рад?*
*Чаму паэт знаходзіцца ў выгнанні,*
*Дзесь ад сваіх хаваючыся ўлад?*

*Не называю прозвішча — вядома*
*І так, аб кім гаворка ў нас ідзе.*
*Куды балючай — як пражыць нам дома*
*Ў такой ліхой чарнобыльскай бядзе?*

*Чаму ніхто з чыноўнікаў высокіх*
*Дагэтуль пакарання не панёс*
*За тое, што атрутныя аблокі*
*Не “заўважаў” у вышыні нябёс?*

*Ва ўсіх людзей адзін у сэрцах клопат —*
*Каб лепей жыць, больш хлеба зарабіць.*
*А для чаго рабіць у краі допыт —*
*Якой у нас дзяржаўнай мове быць?*

*О як жа перад намі шмат пытанняў*
*Зямелька ставіць родная сама!*
*І так шкада, што ў расчараванні*
*На іх адказу ў нас пакуль няма.*

*Вось ужо восьмы нада мной дзесятак*
*Паплыў удалеч хмаркаю сівой.*
*А хто ж мне скажа — дзе, з якое даты*
*Крок у жыццё зрабіць наперад свой?*

## Труба кагосьці кліча...

*Чалавек на плошчы грае зрання*
*І да самай позняе пары.*
*Можа, хто падкіне падаянне,*
*Несучы зямлі сваёй дары?*

*У музыкі — сумнае аблічча,*
*Ўсё стаіць на месцы на адным.*
*І труба яго кагосьці кліча*
*Голасам ахрыплым медзяным.*

*Пра даўно забытую Кахоўку*
*Грае ўсё мелодыю адну.*
*Хтосьці ў шапку кінуў сторублёўку —*
*Бы пясочку жменьку на труну...*

*Голасам труба з пагаслых знічак*
*Хоча іскаркай бліснуць з нябёс.*
*Увесь час яна кагосьці кліча,*
*Скардзіцца на свой няшчасны лёс.*

## Стаім адны на раздарожжы

*Над Бесяддзю ў яе вярхоўі,*
*Што звоніць гонкім сасняком,*
*Узняўся помнікам духоўным*
*Дубовы крыж пад ручніком...*

*Калісьці перад днём прычасця*
*Уся ў царкву ішла сям’я,*
*І свечкі ставіла, каб шчасцем*
*Нам стала родная зямля.*

*А сёння хто нам дапаможа*
*Спыніць бяздушнасці разгул?*
*Стаім адны на раздарожжы*
*І чуем злой віхуры гул.*

*Нат птушкам недзе прытуліцца*
*Ў атручаных гаях, садках, —*
*Крыжамі ў хатах і капліцах*
*Замшэлі дошкі на цвіках.*

*Не знаем, час які над краем:*
*Зіма, ці лета, ці вясна.*
*Ужо з Кастрычнікам і Маем*
*Развітваецца старана...*

*Другія ўклейваем імёны*
*Ў праспекты, вуліцы, дамы,*
*Бо знішчаны ж былі мільёны*
*Сваволлем сталінскай гурмы.*

*Дзе адшукаць — не залатую —*
*Сярод сваіх палёў і рэк*
*Зямную зорачку мне тую,*
*Якую ўвесь шукаю век?*

*У свеце зор з нябёсаў ясных*
*Мне крыжык матчын быў відзён,*
*Каб не звялі ў зямлю дачасна*
*Ні смерць, ні раны, ні палон.*

*Дык хай на ручніку дарожным*
*Сагрэе сонейка расу.*
*Я на грудзях свой крыжык, можа,*
*Да дзён апошніх данясу...*

## Пра што гамоняць дрэвы

*Вядомы ўсім паэт, складаўшы песні,*
*У Нарачы сваёй мог запытаць:*
*“Адкуль і ад якога дрэва ў лесе*
*Шум пачынаецца — хто можа ўзнаць?”*

*Як не згадзіцца з дарагім паэтам?*
*Бор многа розных нараджае дум,*
*Ён зелянее і зімой і летам,*
*І не змаўкае яго вечны шум.*

*Ты чуеш, як скрыпяць сасонкі звонка, —*
*Штосьць хочуць перадаць адна адной?*
*Свае ў іх песні і свая гамонка*
*Пра кожны дзень над роднаю зямлёй.*

*Ці цёплае надвор’е, ці залева —*
*Бор ласкай атуляе ў цішыні.*
*Я добра знаю — ад якога дрэва*
*Мае ў зямлю ўрасталі карані.*

## Салдатка

*Ад фашысцкай няволі радзіма*
*Ужо вызвалена была, —*
*Эшалоны ж праходзілі міма*
*Вёскі той, дзе Марына жыла.*

*Праязджалі салдатаў мільёны*
*За гады — на вайну і з вайны.*
*Ёй ні весткі, ані паклона*
*Не прывозілі з фронту яны...*

*Ўжо дарога травой зарастала,*
*Павяла што на бітву байца,*
*А Марына не заўважала*
*Ні пачатку яе, ні канца.*

*Па салдаце сваім у нядолі*
*Ночку выплакала не адну.*
*І цягала вясною ў полі*
*Удава на сабе барану...*

*Больш нікога ў жыцці не знайшлося,*
*Хто б з ёй мог падзяліць свой хлеб-соль.*
*І адна ў сваю познюю восень*
*У душы перасільвае боль.*

*Дажывае ў штодзённай трывозе*
*Век салдаткі-гаротніцы свой.*
*Аддала і яна перамозе*
*Увесь жыцця свайго шэры сувой.*

## Дарога, якой няма

*З даўніх пор мне мроіцца дарога,*
*І не толькі ў неспакойным сне:*
*Прынясе яна ўсяго нам многа,*
*Запануе лад у старане.*

*Будзем жыць і годна, і шчасліва*
*З працы рупнае сваіх мы рук.*
*Будзе аб усім пісаць праўдзіва*
*Незалежны і дзяржаўны друк.*

*Хопіць сонца і святла, прастору*
*Для людзей, для дрэў, для ніў-палёў.*
*Не адчуе аніхто раздору*
*Між дзяржаў суседніх і краёў.*

*Кветкамі — ярчэй за ясных зорак —*
*Расцвіце зямля — калыска мар.*
*Прыйдзе мудра той прарок-гісторык,*
*Пра якога гаварыў пясняр.*

*Люд не будзе мерці ад знямогі,*
*Ад хвароб і ад варожых куль.*
*Ды шкада: той шчаснае дарогі*
*На зямлі няма нідзе пакуль...*

ПРОЗА

ЛІТАРАТАР з раніцы сядзеў за пісьмовым сталом у надзеі напісаць новы твор, які павінен стаць чарговым шэдэўрам прыгожага пісьменства. Магічная боязь перад чыстай старонкай паперы не дазваляла літаратару вывесці першае слова. Можа, гэта была боязь перад наканаваным. Але нікуды не дзенешся — калі ты пісьменнік, дык павінен пісаць. Ды вось неспадзеўка: нічога выціснуць з сябе ён не мог, і сліна нічога не прыносіла на кончык яго залатога пяра. Любы ўцяміць, што ў літаратара не было натхнення, а без яго якая там творчасць — адна марока.

Пра што пісаць, калі творца выйшаў у тыраж? Каханне, самагнёт, хмель і нават ганарар не даюць рады. Але ж тэм так многа ў жыцці! Прыкладам, апісаць паход у грыбы, ці апець родныя палеткі і гаі, ці распавесці аб тым, як выйшаў на сенажаць і з нагана ў жабу бац... У майстэрстве ягоным нельга было сумнявацца, бо ад пісьменніцкай працы ён добра наседзеў адно месца. Будуць творы, будуць шматстаронкавыя! Адно — шкада бедных філфакаўцаў. Можна ўявіць, з якой радасцю яны пасля вывучэння твораў мовяць: “Лухта”.

Літаратар выпіў у меру свайго таленту чарачку гарэліцы для натхнення і, пакуль яно падымалася, палюбаваўся пераплётамі сваіх кніг, што стаялі дружна ў рад на паліцы. Аднак — не пісалася, натхнення як не было, так і не было. “Згасае талент без натхнення, — пачаў думаць ён, — няма натхнення без кахання”. Літаратар дастаў з шуфляды стала старое фота сваёй каханай. Колькі мінула часу з той пары, калі ён кахаў, калі яна была для яго самай-самай!.. Адно каханне было ў іх на дваіх — і не падзялілі яго ніяк. “Мы сталі адно адным, а каханне ніяк падзяліць не маглі — адно каханне дзялілі на дваіх. Прыйшоў трэці і забраў яго сабе. Мінулі гады, застаўся час, і страчаны быў шанс. Міне і гэты час, і нічога не застанецца ад нас. Хай праходзіць, хай мінае, калі няма, дык і не было”.

І вось у гэты момант думку пісьменніка абарваў званок у дзверы. Літаратар узрадаваўся нечаканаму госцю, як з’яўленню самой музы. Ён адчыніў і ўбачыў прадстаўнічага суб’екта ў стыльным гарнітуры з партфелем у руках. Літаратар пазнаў яго. Некалі быў ён выструганы з дрэва ўмелымі рукамі цеслі і меў замест сэрца “пламенный мотор”. Цяпер ён змяніўся, як пасля капрамонту. Даўгі, як у бусла, нос укарацілі да дзятлавага. Па чутках, гэтую пластычную аперацыю рабіў сам Заір Азгур. Але гэта пэўна, пагалоскі. Драўляная галава суб’екта, і асабліва твар, была размалявана даволі па-мастацку, і яе можна было прызнаць за галаву сапраўднага чалавека.

— Слышыш, агент па выдачы патэнта на шчасце, — назваўся ён.

Гэта было цікава, бо з такім агентам літаратар яшчэ не меў стасункаў. Можна было нешта займець з гэтага.

— Шчасце непатрэбна? — спытаўся агент.

— Слышыш, мне патрэбна натхненне, а шчасце яго не прынясе. Ёсць такая з’ява, як натхненне, асабліва жаночага роду, — тлумачыў літаратар, узрадаваны тым, што знайшоўся слухач ягонай думкі. — Сустрэў музу, узяў яе за ручку, а калі яшчэ за што, дык што яшчэ трэба? А пасля — быццам у цябе матор з верацёлкай. Узлятаеш, як у Шагала, над горадам. І можна доўга лётаць. Так доўга, наколькі паліва дастане, а пасля як грымнешся аб зямлю... Ну, пра наступствы я не кажу, але раю для натхнення мець у запасе паліва, каб прызямліцца. Панімаеш?

Агент зразумеў, што літаратар меў дастаткова паліва і лётаў і цяпер у высокіх сферах натхнення.

— Я ўпаўнаважаны выдаць патэнт на шчасце. Парай, як знайсці чалавека без шчасця. Ты ж разбіраешся ў тайнах чалавечай душы.

Літаратар, задаволены, пахвалой, усміхнуўся, глыбакадумна задумаўся і нарэшце прыдумаў:

— Слышыш, трэба знайсці чалавека, якому шчасце прынясе тое, чаго яму не стае...

З такой мудрай парадай агент пайшоў шукаць таго няшчаснага, а літаратар сеў за стол з ідэяй напісаць пра агента па выдачы шчасця. “Усё роўна мяне ніхто не чытае. Але ж трэба пісаць, выціскаць па слову з сябе, графамана. І мяне ўжо не перайначыць”, — вырашыў літаратар. І вывеў на паперы назву твора: “Патэнт на шчасце”. Гэтак жа лёгка пісалася і далей: “Дзіўныя рэчы пішуць газеты: усё, што нам абяцалі, мы ўжо маем. І няма чаго наракаць на жыццё. Жывём мы шчасліва, а шчасце атрымалі амаль задарма. Такім чынам, ахоплена шчасцем амаль усё насельніцтва. Хоць тэарэтычна можна дапусціць, што адна тысячная з 99 працэнтаў і не ахоплена шчасцем — а гэта ўсяго адзін чалавек. І вось, каб практычна ўсе былі шчаслівыя, трэба знайсці гэтага чалавека і ашчаслівіць яго.

# ПАТЭНТ НА ШЧАСЦЕ

АПАВЯДАННЕ

Вітаўт ЧАРОПКА



З гэтай нагоды была створана ўрадавая камісія. На пасяджэнні члены камісіі думалі, як знайсці гэтага адзінага няшчаснага чалавека. Можна было абвясціць праз сродкі масавай інфармацыі пра яго пошук. Але хто дасць гарантыю, што на лішняе шчасце не будуць прэтэндаваць тыя, у каго яно ёсць? Такой гарантыі ніхто не даваў. Наадварот, прагучала думка, што прэтэндэнтаў на лішняе шчасце знойдзецца вельмі шмат, бо людзям заўсёды мала шчасця, а многія проста не разумеюць свайго шчасця. Тады складзецца ўражанне, што ўсё насельніцтва нешчаслівае. А гэта супярэчыць праўдзе. Вырашылі не надаваць акцыі шырокага розгаласу — знайсці патрэбнага гаротніка ціха і без шуму. Для яго пошукаў выбралі агента. Выбралі аднаго, бо баяліся карупцыі — калі б было больш агентаў, нехта з іх абавязкова прадаў бы патэнт на шчасце, а можа, і неаднаразова прадаваў бы яго. А шчасце выпісалі адно, і для аднаго і для няшчаснага. Таму выбралі аднаго агента, сумленнага. На тое ўказвала ягонае сумленнае жыццё, а таксама адпаведныя характарыстыкі і меркаванні калегаў. Агент атрымаў патэнт на шчасце. Усе члены камісіі па-сяброўску пажадалі яму ўдачы і выправілі ў пошукі.

Дзе шукаць гэтага адзінага гаротніка, агент не ведаў. Дарэчы, не ведаў ён, і як шукаць. Тады з невядзі ён вырашыў дзейнічаць метадам ніку: сюды нік, туды нік — вось і дзень знік. Спачатку ён адправіўся да знаўцы чалавечых душ — вядомага літаратара, амаль класіка.

Літаратар з раніцы сядзеў над новым творам, які павінен стаць чарговым шэдэўрам. Але нічога выціснуць з сябе не мог, ды і сліна нічога не прыносіла на кончык яго залатога пяра. Любому ўцям, што ў літаратара не было натхнення, а без яго якая там творчасць — адна марока. І калі ў дзверы прагучаў званок, літаратар узрадаваўся, нібыта чакаў у госці музу. Аднак замест музы на парозе стаяў агент.

— П'еро, дружа! — радасна ўсклікнуў агент, пазнаўшы яго. — Дык вось хто класік нашай літаратуры!

— А як жа! У мяне чуллівае сэрца. З такім сэрцам толькі інжынерам чалавечых душ і быць.

— Слышыш, шчасце непатрэбна? — прапанаваў агент.

— Мне патрэбна натхненне, а шчасце яго не дасць. А натхненне прыносіць шчасце.

— Дык парай, як знайсці чалавека без шчасця. Ты ж сэрцавідзец.

Літаратар ведаў жыццё і ведаў, што адказаць.

— Слышыш, знайдзі таго, каму шчасце прынясе шчасце...

З такой мудрай парадай агент пайшоў шукаць таго аднаго няшчаснага, каб ашчасліваць яго. А літаратар пачаў новы твор пра агента па выдачы "патэнта на шчасце".

Як пранікнёны знаўца чалавечай душы, літаратар ведаў, што агент не знойдзе няшчаснага гаротніка. Ён уявіў, як агент прыйдзе да простага чалавека і на пытанне "Ці не патрэбна табе шчасце?" жонка замест яго адкажа: "Шчасце не з'ясі, ім сыты не будзеш. Прасі грошай". Агент не ўпаўнаважаны даваць грошы, і пойдзе далей шукаць. А далей ён можа звярнуцца да багатага чалавека, які адкажа: "У мяне ўсё ёсць, навошта мне дарэмнае шчасце?" Закаханыя адкажуць прыкладна так: "Мы кахаем, а гэта больш за шчасце, гэта абсалютнае шчасце". Каго яшчэ можа напаткаць агент? Тут фантазіяй можна расцякацца на раман. Зрэшты, агент зразумее ўсю марнасць сваёй місіі і, расчараваны, пойдзе ў забягалаўку, каб кульнуць са скрухі чарку гарэлкі. І вось там ён выдасць патэнт на шчасце якому-небудзь жлукту, які выменяе яго на пляшку таннага пойла. Такое вось апавяданне хацеў напісаць літаратар.

У гэты час агент зайшоў у кватэру да простага чалавека і спытаўся:

— Слышыш, шчасце не патрэбна?

— Слышу, не глухі. А што з ім рабіць? — адказаў просты чалавек.

— Ты ніколі нічога не ведаеш! — накінулася на простага чалавека жонка. — Грошай прасі — вось і будзе табе шчасце.

— За грошы шчасце не купіш, — адказаў агент і выйшаў з кватэры.

Як бачым, усё гэтак і адбывалася сваім парадкам як задумаў літаратар. Аднак не ўсё так, каб было так. Пасля сыходу агента просты чалавек задумаўся: "Грошы, грошы... Калі жыць дзеля іх, дык яны вышэй за сэнс жыцця. Тады жыццё бессэнсоўнае. Вось сёння ў чарзе пачуў, як нейкі стары горка смяяўся: "Жабраком нарадзіўся — жабраком і памру. І які тады сэнс было жыць?" Сапраўды — які?".

— Шчасце не ў грашах, — патлумачыў жонцы.

Яна зірнула на простага чалавека як на дзівака і насмешліва мовіла:

— Вядома, шчасце ў іх колькасці.

— А навошта гэтая колькасць, калі за грошы не купіш шчасця?

— Не дуры мне галавы, яна і так не разумее, навошта гэтае шчасце і што яно такое.

Просты чалавек махнуў на жонку рукой і пайшоў на двор пагаварыць сам з сабой.

Тым часам, агент, пераходзячы праз вуліцу на зялёнае святло, ледзь не трапіў пад колы аўто. То якраз ехаў багаты чалавек Карабаса Барабаса. У яго і мышы дома багатыя былі. Карабаса, як смоўж са сваёй скаралушчы, высунуў з аўто адкормленую на смаках і прысмаках морду і нармалёва мовіў:

— Слышыш, у натуры, казёл, жыць абрыдзела?

— Слышу, віжу і разумею, што табе шчасце, канечна ж, не трэба.

— Калі трэба, я куплю, у натуры, — адказаў багаты чалавек і схаваў галаву ў скаралушчу аўто.

А літаратар, у меру свайго таленту апісаўшы гэты эпізод, вырашыў дадаць і пару сентыментальных мазкоў. "Едзе багацей дадому і думае: "Дажыўшы да гэтага ўзросту, я зразумеў адно: ёсць людзі, якія мяне ненавідзяць, і ёсць людзі, якіх я хацеў бы любіць. Яны скажуць: ты не можаш любіць — ты старэеш, і пачуцці згасаюць твае, і вера згасае ў пачуцці свае. Ну хай, вы не далі веры мне. Ну добра, я хацеў бы, каб любілі мяне — хоць бы за тое, што ёсць я.

Я палюбіў бы, як палюбяць мяне. Быў бы я, былі б яны — каго люблю і хто любіць мяне. А тыя, што ненавідзяць, не прынясуць нам зло, яны таксама палюбяць мяне — хоць бы за тое, што ненавідзяць мяне".

Можа, ён гэтак і думаў, хто яго ведае, а можа, і не думаў, бо хто яго ведае — думаў ці не думаў? Аднак у душы ягонай зацяплілася нешта такое пачуццёвае, што захацелася шчырасці і пяшчоты. Дома ён спытаў сваю жонку Мальвіну — як для каго, а для яго прыгажуня сабе на гонар і людзям на паказ:

— Слышыш, давай, у натуры, пашчырагаму. У нас шчасце адно на дваіх. Што важнейшае для цябе — я або шчасце? Калі шчасце, значыць, ты шчаслівая, а я — нешчаслівы. Калі ж я, дык ты нешчаслівая.

— А што важнейшае для цябе? Калі шчасце, дык я для цябе — рэклама твайго шчасця. Калі ж я, дык дай жа мне шчасце, — адказала са скрухай у голасе Мальвіна.

— У нас адно шчасце на дваіх, і яго не падзяліць.

— Чаму? Прыйдзе трэці і падзеліць — табе шчасце, а мне каханне. Як ты дзяліў — сабе шчасце, а яму натхненне.

І адчуў Карабаса духоўную адзіноту. Ніхто яго не разумеў і не хацеў зразумець. У хвіліны такія надзяваў ён генеральскі мундзір, браў бізун у рукі і выходзіў на вуліцу. Цешылі сэрца ўражлівыя позіркі людзей і пачцівы шэпт: "Гэта ён, сам ён". Бабулькі кленчылі перад ім і цалавалі рукі, а сівыя дзяды выцягваліся ў струнку і па-вайсковаму салютавалі, падносячы далонь да скроняў. І ён пачуваў сябе гэтым самым "гэта ён, сам ён". Карабаса адчыніў дзверцы шафы — золата генеральскіх эпалетаў на мундзіры радасным бляскам зазіхацела ў ягоных вачах. Ён не пачуў, як выйшла з кватэры Мальвіна.

Усяго гэтага літаратар не мог уявіць, а таму і не напісаў. Цяпер яму трэба было прывесці агента да закаханых. "Выпнуўшы наперад грудны каркас і ўся сабою задаволеная, як гусыня, што знесла яйка, стаяла на пероне вакзала відная прыгажуня. На яе вылупіў вочы стойкі алавяны жаўнерчык. Агент памкнуўся было да закаханага жаўнерчыка, бо відавочна, што ён засох ад кахання, і патэнт мог бы ашчасліваць яго, як кампенсацыя за нелюбоў, але той міла загаварыў з прыгажуняй. Агент зразумеў сваю недарэчнасць у гэты момант. Аднак ён не ведаў тайнаў чалавечага сэрца, бо сам не меў яго, а жыў па інструкцыях і пастановах. Між тым жаўнерчык казаў да прыгажуні:

— Мне кажуць, ёсць вышэйшыя за мяне. І я не спрачаюся. Але і мой рост дазваляе любіць ніжэйшых за мяне. Ды не ў росце справа, проста трэба мець сумленне.

— Слышыш, што—што—што? — скрывілася дзявуля.

— Не што—што—што, а педыкулёзны крытэрый.

— Што—што—што?

— Слышыш, праверка на вашывасць, вось што".

Гэта была суровая рэчаіснасць, якую літаратар хацеў паказаць ва ўсёй яе непрыгляднай аголенасці, як і вучыў сацыялістычны рэалізм. Аднак для закруткі сюжэта патрэбны быў любоўны трохкутнік. Літаратар толькі падумаў пра гэта, як у натхнёнай галаве нарадзілася слова трохпакутнік. О, гэта была знаходка, вартая ўвекавечання на паперы! Можна напісаць сотні твораў, якія і чытаць не стануць, а вось прыдумаць новае слова — гэта сапраўды праява геніяльнасці.

"— Што ты за дзявуля? Прыйдзе і возьме цябе кожны ўсякі і любы, — мовіў жаўнерчык.

Так і адбылося. Падышоў кожны ўсякі і любы і ўзяў прыгажуню. Стойкі алавяны жаўнерчык стойма стаяў на трэцім куце палюбоўнага трохпакутніка.

— А любоў? — вырвалася з душы жаўнерчыка.

— А любоў прыдумалі бедныя, каб не плаціць, — насмешліва патлумачыў кожны ўсякі і любы".

А ў рэчаіснасці адбывалася інакш. Агент дзейнічаў не зусім з домыслу літаратара. Яму надакучыла прапаноўваць шчасце, бо ад яго шарахаліся, як ад дурня, — ну, зразумела, дурня клеіць... І тады ён пайшоў у ціхі парк. Як вернік, стаяў ён у храме вясны перад зялёным яе алтаром. І водар кветак, як віно, кружыў галаву. З кліраса нябёсаў гучаў вечны спеў абнаўлення жыцця. "Не заўважыў, як надышла вясна. Так і жыццё праходзіць у нябачнасці. Нічога не паспееш уцяміць і ўгледзець", — падумаў агент.

Сонца свяціла, і людзі радаваліся сонечнай шчодрасці. З іншага часу чалавек, як помнік мінулых гадоў, нерухома і бязмоўна сядзеў на лаве. На яго уніформе мінулага ззяў іканастас знакаў паслуг, заслуг і прыслуг. Сумна было глядзець яму на людзей. Забыліся яны на вялікую ідэю, сталі — абы стаць. Гэта быў ніхто іншы, як сам тата Карла, які некалі выстругаў з палена будучага агента. У агента прачнулася да яго сыноўе пачуццё. Так па інструкцыі павінна было быць.

— Тата Карла! Як жыццё-быццё?

— Ай, сынок, што за жыццё-быццё? Кім быў, тым і застаўся — жабраком. Працаваў, працаваў, як папа Карла, а што... Лепш быць стойкім туняядцам, чым гарбатым стаханаўцам.

— Слышыш, дык ты няшчасны! — радасна ўсклікнуў агент, знайшоў нарэшце гаротніка — ашчасліваць яго, і гэта будзе яму сыноўя ўдзячнасць. Усё атрымалася як мага лепш. Аднак тата Карла спалохана ўскрыкнуў:

— Не, не, не! Я шчаслівы!

— Ну як жа? Ты ж скардзіўся на лёс... Дам табе патэнт на шчасце.

— Патэнт? Не, не, не! У мяне хоць засталася ілюзія, што мой лёс і ёсць маё шчасце, а вазьму патэнт — і высветліцца, што маё шчасце ў маім няшчасці. Не, не, не!

— Слышыш, як хочаш. Ну дзе мне шукаць гэтага гаротніка? — амаль з адчаем спытаў агент.

— Колькі ў свеце шляхоў, а ўсе ў невядомае вядуць, альбо нікуды не вядуць. Ідзі. Дурная галава павядзе, а разумныя ногі прывядуць.

Тата Карла змоўк, і маўчаў, як сфінкс, і маўчанне яго нічога не казала агенту. А маўчаў ён, бо думаў: "Ападае аздоба былых гадоў. Скарлупіна, з якой так і не нарадзілася любоў. Зоркі, якія не асвяцілі шлях. Сярпы, якія не зжалі ніводнага коласа. Кавадлы, якія не выкавалі ніводнай падковы. Чым іх замяніць? Скарлупіны мяняюць на зоры, а зоры на скарлупіны, сярпы на кавадлы, а кувалды на сярпы. Ізноў доўгае чаканне. Чаго?"

Агент не стаў лезці ў чужыя думкі і пайшоў выконваць свой абавязак. Убачыў, як малалетка ў чырвонай шапачцы, адчуваючы ток жаночага пачуцця, выстаўляла сябе на паказ і спявала: "А я такая маладая, і ніхто мяне не цалаваў". Вярцелася-круцілася ці круцілася-вярцелася — прываблівала. Пахмелены трункам юналетка, які прагавіта паглядаў на яе, глынуў сліну пажадлівасці і ўсеголасна папрасіў:

— Слышыш, выберы мяне! Няма дэфектаў у мяне, усё ў норме і ў парадку, і як мае быць паводле з пастановамі здраўміна і мінздрава.

І ён распрануўся, паказаў голы торс — качаныя мускулы і біцэпсы і валасатыя грудзі.

Вось каму трэба шчасце — няшчаснаму юналетку. Агент падышоў да яго, а той мовіў:

— Не думай, слышыш, што я акасеў. А хто зразумее, што бездань граху, калі падаеш уніз і баішся пераламаць жыццёвы стрыжань спіны. А можа, падняцца да вышыняў, дзе ляпанне крыл анёлаў нагадае, што спакуса — гэта грэх? Ці грэх, ці два... Гэта і ёсць тая спакуса дзявочай ваблівасці. Люблю іх ножкі... Хто палюбіць іх, той зразумее мяне, і спакуса авалодае ім...

Ясна, чаму не шалець, калі прыступае. Навошта змешваць высакародную справу з праблемамі палавога выспявання? Хіба гэта любоў? Любоў — гэта нешта вышэйшае за пачуццё "глыбокага удаўлетварэння". Тут аднымі глыбокасцямі сэрца не адчуеш. Агент зразумеў, што і ў любові патэнт на шчасце не дапаможа.

Літаратар тым часам працягваў пісаць апавяданне — натхненне вяло яго папераздзе агента, а ён вёў агента за сабой. "Агент яшчэ не страціў надзеі знайсці гаротніка. Калі тэарэтычна такі быў, значыць, можна было і практычна знайсці яго. А як сумленны і адказны службовец, ён павінен быў выканаць даручаную яму місію.

— Вам шчасце не патрэбна? Вам шчасце не патрэбна?

— Не прымушай нас думаць пра тое, што нам і так ясна.

— Калі я не магу, што хачу, дык навошта мне шчасце — яно не заменіць і не зменіць таго, што хачу.

— Вам шчасце не...

— Не і не. Калі мы з'явіліся, значыць, дзеля чагосьці, каб апраўдаць сваё з'яўленне. Але як апраўдаць гэтае апраўданне, калі не ведаеш, дзеля чагосьці мы з'явіліся? Ну не дзеля шчасця, зразумела...

— Вам шчасце...

— Мяне няма, а значыць, я не жыву, а бачу жыццё збоку і разумею больш, чым разумею, каб быў бы.

— Што мне шчасце? Мне пакінуць хоць след, а вецер замятае яго. Хаджу, хаджу — сляджу, сляджу, а слядоў няма, як няма мяне.

— Вам шчас...

— Кінуў на вагі тое, што было і што ёсць. І бачу: тое, што было, — назаўжды сплыло. А вось што цяпер ёсць?

— Вам...

— Па грошу я ўсюды збіраў на яе хаўтуры, дый ніхто мне і гроша не даваў. Ніхто не верыў у яе смерць. Як не верылі і раней, што яна ёсць у мяне. Колькі ні бажыўся — не бралі на веру. Згасіў Бог яе агеньчык. Ляжыць яна ў труне пад маўклівы плач свечак.

— Слышыш, а хто яна такая?

— Надзея!

— ...

І гэтак далей і тое самае...

І тады агент зразумеў усю марнасць сваіх пошукаў. Ён прысеў на лаўку і падумаў: што такое шчасце? Абстракцыя, падман ці мроі? Ці гэта абсалютнае суладдзе? Вось каб шчасце было менавіта тым, чаго не стае чалавеку для шчасця. Аднак ён павінен выканаць даручаную яму місію. І тады агент вырашыў прэзентаваць патэнт якому-небудзь заліваку. Можа, той не будзе такім пераборлівым, задаволіцца даведкай, што стаў шчаслівы.

*(Працяг на стар. 14—15)*

***XX стагоддзе застанецца ў гісторыі чалавецтва, апроч іншага, як адно з самых крывава-трагедыйных, і найперш таму, што гітлераўскі фашызм у гады другой сусветнай вайны знішчыў дзесяткі мільёнаў людскіх жыццяў. Сярод змагароў з “карычневай чумой” і ахвяраў германска-савецкай бойні вельмі шмат беларусаў, прадстаўнікоў іншых братніх народаў, якія здаўна жывуць на нашай зямлі, і сярод іх — больш дзвюх соцень беларускіх, рускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў. Звыш 30-ці літаратараў Беларусі загінулі на ваенных франтах, у партызанскай барацьбе і засценках фашысцкага гета.***

***Ужо даўно прыспеў час годнага ўшанавання памяці тых, хто загінуў у віхуры вайны, не паспеўшы здзейсніць творчыя задумы, напісаць свае галоўныя творы ды кнігі. Сёння друкавання традыцыйных біяграфічных нататак з нагоды юбілейных гадавін відавочна недастаткова, бо варта і апублікаваць тое, што ацалела з творчай спадчыны гэтых аўтараў — Змітрака Астапенкі, Янкі Бобрыка, Леаніда Гаўрылава, Аркадзя Гейнэ, Алеся Дубровіча, Рыгора Жалезняка, Алеся Жаўрука, Уладзіміра Кандрацені, Паўла Левановіча, Рыгора Мурашкі, Алеся Мілюця, Алеся Пруднікава, Уладзіміра Рагуцкага, Рыгора Суніцы, Андрэя Ушакова, Івана Шапавалава і іншых.***

***Хацелася б спадзявацца, што літаратурным помнікам загінуўшым на вайне стане зборнік “Недаспяваная песня”, які мне давялося на працягу трох з паловай гадоў рыхтаваць для “Беларускага кнігазбору”.***

***Сёння знаёмім з творчасцю Тодара КУРБАЦКАГА.***

# Заранкавыя песні

## ПАЭТ І САЛДАТ Тодар КУРБАЦКІ

Беларуская зямля багатая на паэтычныя таленты. Каб у гэтым пераканацца, варта адгарнуць старонкі шасцітомнага слоўніка-даведніка “Беларускія пісьменнікі”. Аднак у гэтым грунтоўным выданні, як і ў іншых даведніках, на жаль, адсутнічае імя паэта Тодара Курбацкага.

З вершамі ў рэспубліканскай перыёдыцы ён выступіў на пачатку 30-х гадоў. Шматлікія творы змясціў на старонках акруговай газеты “Бальшавік Палесся”, надрукаваў свае вершы ў альманаху “Аднагодкі” (1934), часопісах “Беларусь калгасная”, “Полымя рэвалюцыі”, газетах “Літаратура і мастацтва”, “Чырвоная змена”, “Звязда”.

Біяграфічныя звесткі пра Т. Курбацкага скупыя. Сёе-тое пра яго ўдалося даведацца ад нашых старэйшых пісьменнікаў Паўла Пруднікава і Мікола Аўрамчыка. Дапамаглі ў росшуках звестак пра паэта журналіст з Мінска Мікалай Шчэрбачэня і намеснік старшыні Кармянскага райвыканкама Віктар Мацвеенка.

Тодар (Фёдар Пракопавіч) Курбацкі нарадзіўся ў 1904 годзе ў мястэчку Карма Гомельскай вобласці. Вучыўся ў Магілёўскім Белпедтэхнікуме. Тут пасябраваў з Алесем Пруднікавым, які таксама пісаў вершы. Хлопцы давалі адзін аднаму чытаць свае творы, дзяліліся марамі і думкамі. Пазней абодва падаліся на вучобу ў Мінск. У сярэдзіне 30-х гг. Т. Курбацкі закончыў Мінскі педагагічны інстытут. Па звестках даследчыка Л. Маракова, у 1936 г. быў рэпрэсаваны. Настаўнічаў, працаваў у Хойніцкай дзесяцігодцы (СШ N 1), вучыў Івана Мележа, які з удзячнасцю згадваў свайго настаўніка. У 1938 г. удзельнічаў у рэспубліканскай нарадзе маладых аўтараў (разам з Адамам Русаком, Аркадзем Марціновічам, Алесем Салаўём, Міколам Аўрамчыкам, Уладзімірам Шахаўцом і інш.). Па словах паэта Міколы Мятліцкага, Тодар Курбацкі пэўны час жыў у вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. У гады вайны апынуўся на фронце, удзельнічаў у баях. Загінуў 15 студзеня 1945 года.

Паэтычная творчасць Т. Курбацкага ў многім тыповая для таго даваеннага часу — аптымістычная, бадзёра-радасная і дэкларацыйная. Ён, як і многія яго аднагодкі, сцвярджаў сябе ў літаратуры ў пачатку — сярэдзіне 30-х гг., калі складвалася традыцыя парадна-святочнай паэзіі, існавалі каноны і ўзоры, па якіх маладыя аўтары вывяралі свой голас. Таму і Т. Курбацкі не пазбегнуў у сваіх вершах ідылічнасці, прамаўлення ў духу палітычных установак і запатрабаванняў савецкай ідэалогіі. Скажам, гэты аўтар аддаў даніну прымітыўна-ўслаўляльнаму пафасу, звязанаму з культам асобы Сталіна: “...Сваю шчырасць бацьку панясем: // Пад гармонік звонкі, галасісты // Песню мы пра Сталіна спяем” (“Ліпнёвы вечар”).

Лірычны герой паэта — юнак-рамантык, сэрца якога поўніцца адчуваннем радасці і велічы жыцця, мэтаімкнёнасцю і вялікай прагай спазнання свету. Ён разам са сваім пакаленнем перажывае незвычайны ўздым ад таго, што выйшаў на шырокія жыццёвыя прасцягі. Герой паэта паўстае як палкі і няўрымслівы энтузіяст, дзейсны і актыўны малады чалавек, які турбуецца пра лёс радзімы, з упэўненасцю глядзіць у будучыню. Аўтар узнёсла апявае яву роднага краю:

***Па вясне, калі бушуюць воды,***
***Прыязджай і сам убачыш ты,***
***Як па Сожу трубяць параходы,***
***Як ідуць па Прыпяці плыты;***
***Як ад Менску скрозь да Магілева***
***Наліваюць нівы ды сады,***
***Прыязджай — і ты пачуеш спевы,***
***Што спяваюць нашы гарады.***

**“Сяброўства”**

Сэрца паэта спявала шчыра, песенна-звонка і натхнёна. У лепшых творах Т. Курбацкі дасягаў сапраўднага лірызму, усхваляванай пранікнёнасці і даверлівай цеплыні інтанацый. Прыклад таму — верш “Пра цёплую вясну”.

Для паэта было ўласціва арганічнае падключэнне да настрою і адчуванняў народнай душы, чуйная ўвага да сялянскіх клопатаў і працы на зямлі. Верш “Жніво” — традыцыйны па тэматыцы, але ў той жа час у ім выяўляюцца настраёвы імпэт і шырыня пачуцця, суладны жніўнай пары паскорана-парывісты рытм:

***Песня ветлая ды стазвонная***
***Ускалыхнула шыр залацістую.***
***Загайдалася жыта белае,***
***Жыта белае, каласістае.***

***І цвіце, гарыць ранне яркае,***
***Даль туманіцца мглою шыраю.***
***Слаўна ложыцца пад жняяркамі***
***Жыта буйнае, жыта спелае.***

На схіле 30-х гг. у лірыцы Т. Курбацкага, як і ва ўсёй тагачаснай паэзіі, загучалі матывы перадваеннай трывогі і пагрозы ваеннага ліха. Пасля савецка-фінскай вайны, бітвы з фашызмам у Іспаніі і захопу германскім рэйхам еўрапейскіх краін узрастала пагроза новага канфлікту. У грамадстве імкліва мілітарызавалася свядомасць, усталёўвалася ідэя антыфашысцкага змагання і патрыятычнай адданасці Радзіме. Ад імя маладога пакалення Т. Курбацкі выказвае гатоўнасць прайсці праз цяжкія выпрабаванні і бараніць межы сваёй краіны. Паэт жадаў, каб яго песня крочыла ў армейскіх шэрагах, была акрыленай і мужнай:

***Ідзі, мая песня, ідзі і жыві***
***У думах, у сэрцах гарачай крыві,***
***Ўздымайся высока, бы воблачны птах,***
***Вучыся хадзіць у армейскіх радах.***

***Стань мужным армейцам***
***ў тугія калоны.***
***Там лепшыя тоны і рыфм перазвоны,***
***Я хочу, каб грозна на гадаў стаянкі***
***У часе паходаў вадзіла ты танкі.***

**“Ідзі, мая песня”**

Неўзабаве другая сусветная вайна неўтаймоўным полымем перакінулася на беларускую зямлю, абрынулася нечуваным горам і вялікімі стратамі. Муза многіх беларускіх паэтаў, вобразна кажучы, апранула салдацкі шынель і стала ў баявы строй. “За гэту радзіму плацілі крывёю” мільёны людзей, і сярод іх палеглі ў суровым змаганні з ворагам беларускія пісьменнікі. З поля бою не вярнуўся паэт і настаўнік Тодар Курбацкі, які не даспяваў свае заранкавыя вясновыя песні, загінуў, калі яму мінула толькі сорак гадоў. Імя гэтага вершатворцы з забытых у нашай літаратуры, але вартае таго, каб вярнулася сёння да нашчадкаў і ўвайшло ў анталогіі ды зборнікі беларускай паэзіі.

Ніжэй друкуюцца два вершы з творчай спадчыны Т. Курбацкага, якія былі апублікаваны напярэдадні вайны ў часопісе “Полымя рэвалюцыі”.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

## Тодар КУРБАЦКІ

### Пра цёплую вясну

***Вясёлаю зялёнай галавою***
***Кусты прыпалі к беламу акну,***
***Ізноў шуршыць папера пад рукою,***
***І тчэцца верш пра цёплую вясну.***

***Жыццё маё, паэзія і думы,***
***Як добра йсці па радаснай зямлі,***
***Адчуць, як лашчаць баравыя шумы***
***І дышуць сонцам плённыя палі.***

***Пад яснай сінявой у маім краі***
***Усюды рэкі чыстыя бы шкло.***
***...Мой край!.. Ты сілы***
***к творчасці ўздымаеш,***
***Каб сэрца шчасцем пела і жыло!***

***З азёрамі, з бясконцымі лясамі***
***У поўнай сіле маладосць зямлі.***
***Вясна праходзіць мяккімі палямі,***
***Чародкі хмар з-за мора прыплылі.***

***От задажджаць, схмурнеюць у адценні,***
***Тады над полем, гаем і ракой***
***Вясёлка ўстане ў сонечным ірдзенні***
***Празрыстай сіняватаю дугой.***

1939 г.

•

***Прайшоў я сцежкай ля ракі,***
***З травы сатканыя разлогі.***
***Тут ад сяла ва ўсе бакі***
***Бягуць бясконцыя дарогі.***
***Мае сябры, мы тут раслі,***
***Прайшло маленства полем, пашай;***
***Адсюль падлеткамі пайшлі***
***Ва ўсе канцы радзімы нашай.***
***Аб вас бярозкі мне шумяць,***
***Чаруюць сэрца цёплым сказам.***
***Душа чакае вас спаткаць***
***Прайсці па родных нівах разам.***
***Іду па ранішняй зямлі,***
***І ўсё паўстала прад вачамі,***
***Як мы ў грыбы калісь ішлі,***
***Як коней пасвілі начамі.***
***Я тут, як вы, ўжо рэдкі госць.***
***Даўно не быў на гэтых травах...***
***За працай наша маладосць,***
***Юнацтва наша на заставах.***

1939 г.

# Беларусь на мяжы тысячагоддзяў

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Ужо той факт, што беларусы тады выжылі, захавалі чысціню роднае мовы, стварылі класічную літаратуру, а пасля першага распаду расійскай імперыі ў 1917—1918 гадах адрадзілі сваю дзяржаву (дарэчы, адначасова з палякамі), сведчыць пра мужны, рыцарскі характар беларускай нацыі. За яе сведчыць сама гісторыя: наяўнасць у яе моцнага шляхецкага саслоўя і рыцарскіх замкаў, руіны іх захаваліся па ўсёй краіне. І калі нехта па наіўнасці, няведанні або злой волі сёння балбоча пра “недаразвітасць” беларускай нацыі, то я напомню: гэтак жа ў 1920-я гады глядзелі на палякаў. Як засведчыў Уладзімір Маякоўскі ў вершы пра савецкі пашпарт: “На польский — глядят, как в афишу коза. // На польский — выпяливают глаза // в тугой полицейской слоновости — // Откуда, мол, и что это за // географические новости?” А між тым за Польшчу ваявала (хоць пераважна ідэалагічнай зброяй, але Напалеон — і ваеннай) ці не ўся Еўропа аж да Рыжскай дамовы Савецкай Расіі з Польшчаю 1921 года.

У заключэнне паразважаем пра будучыню Беларусі. Памыляюцца (а можа, нехта хлусіць!), калі сцвярджаюць, быццам бы наша нацыя “недаразвітая” і неперспектыўная. Яна моцна дэфармавана вонкавымі, імперскімі сіламі, асабліва ў складзе былой атэктычнай імперыі. Бальшавікі праводзілі нябачаны ў ранейшай гісторыі генацыд, найбольш — беларусаў і ўкраінцаў. У параўнанні з гэтым злачынствам супраць “свайго” народа выглядае “ліберальнай” нават нямецка-фашысцкая акупацыя. Верагодна, апошнія ў гісторыі імперскія захопнікі з Германіі нічога новага не прыдумалі ў сваёй вайне. Так было заўсёды — ад тактыкі *выпаленай зямлі* біблейскага Ісуса Навіна і рымскага генацыду падчас Юдзейскай вайны 66—73 гг. да сучасных “лакальных” войнаў. Уладзімір Манамах у “Павучанні” сваім сынам хваліцца тым, што ў паходах 1083 года знішчыў Мінск, не пакінуў там “ні раба, ні скаціны”. Генацыд супраць уласнага народа — гэта нешта новае ў гісторыі імперый, “адкрытае” Іванам IV Жахлівым і Сталіным Крывавым.

У імперыі Сталіна на Беларусь абрынуўся не толькі смяротны ўдар у “цела нацыі” (разбурэнне этнічнага ядра шляхам прымусовай галапіруючай індустрыялізацыі і гвалтоўнай калектывізацыі), але і ў "галаву" (знішчэнне і падаўленне нацыянальна свядомай і палітычна актыўнай эліты). Выглядае амаль боскім цудам, што невялікая нацыя (каля 10 мільёнаў) выжыла і як тая казачная птушка Фенікс адраджалася з уласнага попелу.

Якая ж перспектыва ў беларускай нацыі на будучыню? Куды ёй ісці — на Усход, на Захад. А можа, — трэцім, *сваім* шляхам? Нядаўна я прачытаў псеўданавуковы опус нейкага самадзейнага філосафа пад загалоўкам, здаецца, “Нацыя=гермафрадыт”. Гутарка ідзе пра беларусаў. Аўтар хацеў прынізіць нацыю, якую ён не разумее і на якую крыўдзіцца з інфантыльнай наіўнасцю. Ад такой пісаніны дрэнна пахне, не варта сур’ёзна рэагаваць на яе. Толькі глянуць — і пайсці далей. Але ў канцэпцыі аўтара, што Беларусь балансуе паміж усходнім “жаночым” і заходнім “мужчынскім” тыпам, ёсць нейкая зрэбная праўда. Мабыць, гістарычная місія Беларусі — у пераадоленні аднабаковасці “ўсходняга” і “заходняга” полюсаў. Бо ўсялякая аднабаковая сістэма няўстойлівая і ў далёкай перспектыве не мае будучыні, як не прынясуць плёну ізаляваныя і варожыя паміж сабою “мужчынскі” і “жаночы” пачаткі быцця. Стабільнасць, устойлівасць і, як вынік, — перспектыўнасць нацыі залежаць ад трох фундаментальных рэальнасцяў: наяўнасці моцнага, лакалізаванага на сваёй спрадвечнай прасторы, самабытнага і кансерватыўнага этнічнага нацыі, якое выпраменьвае этнакультурнае *поле прыцягнення;* сфармаванай у гэтым культурным полі нацыянальна свядомай, асвечанай, кампетэнтнай, духоўна актыўнай эліты, якая фармуецца не толькі з інтэлектуалаў, але і творчай часткі ўсяго грамадства; урэшце, ад створанай гэтай элітай культурнай традыцыі, якая прываблівае і праграмуе нацыянальны выбар не толькі свайго народа, але таксама лепшых людзей нацыянальных меншасцяў.

Сёння гэтыя *тры калоны,* што забяспечваюць устойлівасць нацыі і яе духоўны рост у вышыню, моцна дэфармаваныя ў беларусаў. За гэтае наша калецтва нясуць адказнасць перад Богам і гісторыяй не толькі былая Расійская імперыя і яе бальшавіцкі варыянт — СССР, але таксама сучасны Еўрапейскі Саюз, нашчадак былой Антанты і, між іншым, Польшча як спадкаемніца міжваеннай Рэчы Паспалітай. Пасляверсальская Еўропа ў крытычны момант адраджэння Беларускай дзяржавы 1917—1921 гг. не толькі не падтрымала яе, але і дазволіла парэзаць жывое цела нацыі з тысячагадовай культурнай і дзяржаватворчай традыцыяй паміж бальшавіцкай Расіяй і адроджанай Польшчай, дзе ўзялі верх прэтэнзіі на адраджэнне міфічнай польскай імперыі.

У новым тысячагоддзі беларусам яшчэ спатрэбяцца духоўны гераізм і рыцарская ахвярнасць, каб забяспечыць сваёй радзіме права суверэннай нацыі. Але будучыня — за ёю. Бо сёння дажывае свае старэчыя гады апошняя, амаль напаўміфічная, калісьці рэанімаваная бальшавікамі тэрытарыяльная, напаўфедэральная імперыя, што сёння ўсё яшчэ спрабуе задушыць Беларусь у “сяброўскіх абдымках”. Яна здолела амаль на цэлае стагоддзе аднавіцца і пратрымацца пасля распаду ў войнах і рэвалюцыях 1914—1920-х гадоў. Але толькі коштам страты людскіх свабод і крывавай дыктатуры. Імперыя і дэмакратыя — рэчы несумяшчальныя. Нават ад лёгкіх павеваў вятроў дэмакратыі разваліўся Савецкі Саюз, за ім на чарзе — Расійская Федэрацыя.

Гісторыя даўно засведчыла: усе ранейшыя імперыі маглі часова ўтрымацца *толькі на крыві.* Амаль няспынныя катаклізмы ў сучаснай Расіі сёння не толькі рэальныя факты, але і сімвалы. На мяжы тысячагоддзяў для сучаснай Расіі паўстала нялёгкая задача — адрадзіць нацыянальную дзяржаву, даўшы “вольную” ўсім сваім калоніям. У XXI стагоддзі застануцца толькі фінансавыя імперыі. Але, як на мой погляд, не надоўга. Першыя сімптомы — пачатак агульнага крызісу магутнай доларавай імперыі. Маю на ўвазе драматычныя падзеі Трэцяй балканскай вайны — агрэсіі НАТА на чале з ЗША супраць Сербіі, што ўсё трымаецца ў складзе сёння міфічнай Югаславіі. Затрачаных сродкаў на вайну і кошт матэрыяльных страт у гэтай вайне было б дастаткова, каб заснаваць у нейкай пустыні багатую дзяржаву для касаўскіх албанцаў-мусульман (як на мой погляд, — гэта рудыменты былой Турэцкай імперыі). Няхай бы там яны стварылі квітнеючую сельскую гаспадарку. Замест таго, каб гандляваць наркотыкамі.

Будучыня — толькі за духоўнай “імперыяй”, дзе ў рэшце рэшт перакуюць дзіды і мячы на сярпы і плугі ды не будуць больш вучыцца ваяваць. Тады наступіць канчатковае нацыянальнае адраджэнне Беларусі, іншых народаў, сёння адсунутых за авансцэну сусветнай гісторыі.

## Мусіць быць!




**Заўважнай падзеяй у шэрагу мерапрыемстваў да 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага беларускага спевака М. Забэйды-Суміцкага стаў кастрычніцкі нумар гістарычнага бюлетэня "Альтанка", які выдаецца ГА "Цэнтр экалагічных і сацыяльных даследаванняў і інфармацыі "Неруш-цэнтр".**

**На яго старонках чытачы знойдуць бібліяграфічны нарыс "Голас самой зямлі нашай", прысвечаны даследаванню малавядомых старонак жыцця і творчасці Міхася Забэйды-Суміцкага. Яго аўтар — баранавіцкі журналіст і даследчык Алесь Горбач на падставе свайго знаёмства з архівам і прыватнай перапіскай, што зараз захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, знаёміць чытачоў з малавядомымі фактамі біяграфіі і творчасці спевака, фрагментамі ліставання з такімі вядомымі дзеячамі беларускай культуры, як Р. Шырма, М. Танк, У. Караткевіч, З. Верас, і іншымі. На падставе гэтых дакументаў і фактаў журналіст робіць свае небеспадстаўныя высновы і адкрыцці.**

**Вельмі цікавымі падаюцца некаторыя факты пасляваеннага перыяду жыцця, у тым ліку падрыхтоўкі гастрольнай паездкі ў Беларусь у 1963 годзе, канцэртаў у розных гарадах рэспублікі, таго, як прымалася іх жыхарамі і тагачаснымі ўладамі бытнасць Забэйды-Суміцкага.**

**Юбілейны нумар "Альтанкі" багата аздоблены унікальнымі здымкамі, што люструюць розныя вехі жыцця беларускага песняра. Завяршаецца нумар цудоўным вершам Ларысы Геніюш "Забэйдзе-Суміцкаму" і ўрыўкам творчага тастаменту спевака: "...Песня — гэта душа народа, да якога я належу. Трэба раскрываць гэтую душу, паказваць яе якасці іншым народам. Тады нас будуць шанаваць і любіць. А мы будзем абагачаць і сябе, і сусветную культуру. Хай гэта будзе хоць па маёй смерці, але гэта мусіць быць!"**

**А. МІТРАНОВІЧ**

## *У меру таленту і сіл*

**Імя Янкі Пачопкі не сказаць, каб шмат гаварыла, а ён варты, каб пра яго ведаць. Тым больш, што споўнілася з дня нараджэння 110 гадоў (памёр 26 мая 1977 года). Родам Я. Пачопка з вёскі Летнікі цяперашняга Глыбоцкага раёна. У 1913 годзе скончыў Варанецкую сельскагаспадарчую школу і працаваў у дэпартаменце земляробства Віцебскай губерні. Рэдагаваў двухтыднёвік "Праваслаўны беларус", а ў 1939—1958 гадах быў аграномам.**

**Дэбютаваў Я. Пачопка ў 1913 годзе вершам, змешчаным у газеце "Наша Ніва". Як празаік упершыню заявіў аб сабе апавяданнем "Злы лёс", надрукаваным у 1921 годзе на старонках газеты "Савецкая Беларусь". А да ўсяго Я. Пачопка — фалькларыст. Яшчэ з малых гадоў збіраў і запісваў народныя казкі, паданні. Адзін з твораў — "Дурнішча. Народная казка з Дзісеншчыны" — ў 1927 годзе пабачыў свет асобным выданнем. У асноўным жа творы Я. Пачопкі раскіданы па перыядычных заходнебеларускіх выданнях: часопісы "Маланка", "Калоссе", "Хрысціянская думка", "Заранка", "Пралескі", газета "Сялянская ніва"...**

**Што да кніг, дык, акрамя вышэй згаданай, гэта выданні сельскагаспадарчай тэматыкі з практычным ухілам: "Малочная карова: як яе выбраць, карміць і даглядаць", "Гародніцтва: як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мець добрае ворыва", "Як выбраць добрага каня", "Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вуллях".**

**Ян Пачопка быў блізкім сябрам свайго земляка Язэпа Драздовіча, які выканаў яго разны партрэт, а таксама малюнкі да кнігі "Пчолы..."**

**Пасля смерці Я. Пачопкі застаўся сшытак з яго вершамі, які цяпер знаходзіцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

ПАМЯЦЬ

# Мужнасць і высакароднасць

Увечары дзевятага лістапада, вяртаючыся са свае звычайнае вечаровае праходкі і намысліўшы пазваніць Чаркасаву, я міжвольна ўсміхнуўся, ведаючы, што пачую зараз два знаёмыя жартоўныя словы, якія былі ў нас з ім нейкім вясёлым паролем. Пачуўшы ў трубцы Толеў голас, я ніколі не вітаўся, а прамаўляў словаўтварэнне, што не ведаю калі і як склалася ў нашым сяброўстве: "Умбэрта. Ламбэрта. Но пасаран!" І заўжды ў адказ — то радаснае, то маркотнае, то задумліва-сумнае: "Ням-ням..."

У гэты дзевяты лістападаўскі вечар не давялося ні сказаць жартоўны пароль сябру, ні пачуць у адказ яго знаёмы і добры голас. Адчыніў дзверы свае хаты, убачыў жонку. Тэлефонная трубка ў руках — размаўляе з нашай дачкой. Дачка толькі што прачытала ў "Беларускай дзелавой газеце" спачуванне Вераніцы Чаркасавай з нагоды смерці яе бацькі, пісьменніка Анатоля Чаркасава.

Не можа быць! Удзень, дакладней наадвячорку быў у Доме літаратара. На падыходзе да нашага Дома стрэў Алеся Разанава, павіталіся, пагаманілі, потым да нас далучыўся Сяргей Грахоўскі. Жартавалі, потым з Сяргеем Іванавічам зайшлі ў бібліятэку: я здаваў нумары "Маладосці", а ён шосты нумар "Полымя", свой уласны, пераблытаўшы з восьмым нумарам, бібліятэчным, які памылкова пакінуў дома. Адале, развітаўшыся з Грахоўскім, узняўся да Яўгена Каршукова.

Аніводнага слова пра бяду, што прыпаўзла ў кватэру Чаркасава!..

Ашаломлены тым, пра што паведаміла "Беларуская дзелавая газета", я "сядзеў на тэлефоне", мабыць, добрую гадзіну: абзваніў добры дзесятак сяброў, пачаўшы з Яўгена Каршукова.

Аніхто пра смерць Чаркасава не чуў. Не чулі нават і ў выдавецтве "Юнацтва", дзе ён прапрацаваў шмат год і адкуль пайшоў на заслужаны адпачынак. Назаўтра ранкам дазваніўся да былога дырэктара "Юнацтва" Валянціна Лукшы. Для яго гэта было гэтак жа ашаламляльна. Быў ашаломлены маім паведамленнем і мой добры сябар Міхась Зарэмба, які ўзначальвае зараз у выдавецтве "Юнацтва" рэдакцыю, у якой



*Піцунда. 1981 г., кастрычнік. Дом творчасці (Чаркасаў першы справа).*

некалі працаваў Анатоль Чаркасаў.

У рэдакцыі "Беларускай дзелавой газеты", куды я пазваніў потым, былі стрымана-катэгарычныя: так, надрукавалі спачуванне Чаркасавай з нагоды смерці яе бацькі, паклікаць да тэлефона яе не можам, яе у рэдакцыі няма, хатнія тэлефоны, маўляў, нашых супрацоўнікаў мы анікому не паведамляем. Я пакінуў ім свой тэлефон і папрасіў паведаміць пра мой званок Вераніцы Чаркасавай.

Недзе хвілінкі праз дзве яна пазваніла мне. Я сказаў ёй, што не магу паверыць у тое, што паведаміла газета. Вераніка сказала каротка: "Бацьку пахавалі пятага лістапада..." Але чаму, чаму вы не паведамілі ў Саюз пісьменнікаў пра смерць пісьменніка Анатоля Чаркасава?! І зноў стрыманы, поўны болю, адказ: "Мы паведамілі двойчы. Аніхто з саюза на пахаванне не прыйшоў..."

Я пераганяю валік машынкі на новы радок, пакруціўшы белае колца з правага боку, і зноў чужы боль апякае мне сэрца. Левае колца з чорнага эбаніту, заводскае, а правае з белага — яго выштукаваў на маленькім такарным станку Анатоль Чаркасаў. Памятаю, як ён сказаў мне, калі я патэлефанаваў яму пра зламанае колца машынкі: "Нясі, нешта змудруем..."

Калі фіялетавы разец зганяў тонкае стругавінне з кавалачка плексігласу, што быў заціснуты ў такарным станку на кухонным століку, я згадваў гісторыю гэтае прылады. Гадоў, мабыць, з дваццаць таму Анатоль убачыў яго, гэты станок, у краме

# ПАТЭНТ НА ШЧАСЦЕ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Заліваку агент знайшоў у забягалаўцы. Выбраў самага што ні ёсць класічнага — азызлы твар, шкляныя вочы, сінякі і драпіны, горла смаляное: нішто не выклікала сумневу ў правільнасці выбару. Гэта быў штатны залівака пры забягалаўцы, які піў на халяву — хто нальe і хлабысне за яго здароўе.

— Слышыш, дружа, хочаш шчасця? — прапанаваў агент.

— Мне? — залівака няўцямна паглядаў шклянымі вачыма на агента.

— Табе. Выдам патэнт на шчасце — і будзеш шчаслівы.

— Праставіш, дык я табе скажу, а то на фіга мне такія пасажыры.

Агент наліў заліваку, а за кампанію і сабе. Калі выпілі, залівака сказаў, як абяцаў:

— Шчасця няма без няшчасця. А на наша шчасце, няма няшчасця без шчасця. Таму нашае шчасце ў тым, што ёсць няшчасце. І няшчасце нашае ў тым, што няма шчасця без няшчасця. — І хоць язык у залівакі заблытваўся, але тое, што ён сказаў, нельга было прызнаць за нейкую бязглуздзіцу — агент разумеў, што ў гэтым ёсць свая праўда і свой сэнс. У захмялелай галаве мільганула збродлівая думка: а калі выпісаць шчасце самому сабе? Ён адагнаў гэтую думку. Як чэсны чалавек, ён не мог выкарыстоўваць сваё службовае становішча дзеля асабістых мэтаў. Аднак думка спакушала яго. Ён шчаслівы: у яго ўсё ёсць для таго, каб лічыць сябе шчаслівым. А чаму ён лічыць сябе шчаслівым? Гэтае пытанне нібыта прасвятліла яго. Сапраўды, па якой прычыне ён лічыць сябе шчаслівым? І калі няма шчасця без няшчасця, і калі наша шчасце ў тым, што ёсць няшчасце, дык яму якраз і не хапае няшчасця, каб адчуць, зразумець, уведаць, што такое шчасце. Каб у рэшце рэшт яму патрэбна было нешта такое, чаго не прынясе і шчасце, што не купіш за грошы і не заслужыш.

І тады агент упісаў сваё прозвішча ў патэнт на шчасце".

На гэтым літаратар паставіў кропку і адчуў сябе пісьменнікам. Канечна, ён не цешыўся, што новы ягоны твор ацэняць па заслугах і прысудзяць дзяржаўную прэмію. Яе вартасць ён ведаў — у яе не было вартасцяў, апроч назвы. Так што заставалася цешыцца думкай, што ён — пісьменнік.

Добра было б дадаць у апавяданне нешта такое... Вось ідзе агент дадому, і ўсе ў гэты час шчаслівыя: і той, хто зачаў чалавека, і той, хто нарадзіўся, і той, хто памёр. Ну, каб нешта такое было... Але пакуль літаратар хадзіў у краму, дык з галавы выветрылася думка. Ён пакутліва ўспамінаў яе і ніяк не мог успомніць. Нешта такое, а што?.. Да слыху даляцела жалобная мелодыя пахавальнага маршу — галасілі плачам трубы. Некага неслі на клады. Нехта быў народжаны ў гэты час, а нехта пакідаў гэты час. Літаратар быў удзячны гэтаму некаму, які жыў дзеля таго, каб своечасова памерці і сваім адыходам нагадаць згубленую думку.

— І што ў параўнанні з рэчаіснасцю жыцця мой домысел?

Каля пад'езда ягонага дома літаратара спыніў просты чалавек.

— Слышыш, пісьменнік, калі напішаш што пра нас, простых людзей, пра нашае жыццё?

"А навошта пісаць пра іх? Якое жыццё ў простых людзей — праца, транспарт, канапа, тэлевізар, сон, праца... — нічога вартага..."

— А мне гэта нецікава, — уголас адказаў літаратар, які не хацеў марнаваць час на пустыя размовы з простым чалавекам.

— А ты ведаеш, чаму цябе нецікава чытаць? А ты самому сабе нецікавы, а не тое што іншым. Вучыся размаўляць з самім сабой, — мовіў просты чалавек.

— Слышыш, дык гэта хвароба. Лячыцца трэба.

— Я размаўляю са сваім "я", а яно цікавейшае для мяне за людзей...

"А просты чалавек не такі і просты. Сам з сабой... Дзядуля Фрэйд парадаваўся б", — падумаў літаратар, аднак мовіў іншае:

— Ну што такое "я" — азначэнне першай асобы.

— Слышыш, пісьменнік, а ты не правы. Я — гэта Я, мая існасць і маё ўсё. Разумееш? Здаецца, разумны чалавек, пісаць можаш, а простага зразумець не можаш. Ай, — махнуў рукой просты чалавек, — чаго табе тлумачыць. І як ты пішаш, і што, і навошта?

Літаратар таксама махнуў рукой на простага чалавека. Але словы ягоныя збудзілі пачуццё супярэчлівасці. Літаратар усхвалявана хадзіў па кватэры і размаўляў сам з сабой: "Ты думаеш, што пісьменнік павінен дагаджаць чытачу? Не, пісьменнік не прастытутка, каб яго нахаліць можна было... Мне пляваць на тое, што табе нецікава. Я пішу для сябе. Ага, вось і ты размаўляеш сам з сабой. Тваё "я" цікавейшае за людзей. Не ўтрыруй. Я не замыкаюся ў сваім "я", бо мне мала майго "я", мне патрэбны чужыя "я". Ты хочаш спытаць, навошта? А каб ува мне былі ўсе, а я — ва ўсіх..."

Агент не пайшоў у забягалаўку, бо навошта туды ісці — выпівохі і так шчаслівыя, яны бачаць свет п'янымі вачыма — і добра ім. На выпівоху агент патрапіў выпадкова. Яго спыніў прадстаўнічы чалавек і прама прапанаваў:

— Слышыш, мужык, выпіць хочаш? Вып'ем, пагамонім і разбяжымся.

Ён раскрыў валізку, і агент убачыў набор — каньяк, гарэлка, віно — на любы густ і выбар, а таксама патрэбную для такой справы закусь.

— Не, не, я на службе, — прамовіў збянтэжаны агент.

— І я таксама. Пагамонім па душах...

"Значыць, нешта мучае яго душу. Можа, яму стане лягчэй, калі выдам яму патэнт на шчасце", — падумаў агент і пагадзіўся.

У глухім куточку парку яны выпілі па чарцы каньяку.

— Я не алкаголік і нават не піток. Я проста такі, бо не нальe мне нехта іншы. Я п'ю за тое, што адзін — у мяне запой, і пляваць, каму я патрэбны і каму жаданы або не, каму я родны і каму чужы. Наліў і выпіў. Не памятаю, з кім я размаўляў, толькі цень яго бачыў. Куды ён падзяваўся, спытаў я

ГОСЦІ

# "Но", "ма" і "Карма"

***Ютака Такахасі, японскі кампазітар, чыя сімфонія "Карма" прагучала на адкрыцці Міжнароднага фестывалю "Беларуская музычная восень" у Вялікай зале сталічнай філармоніі, завітаў у Мінск. За некалькі дзён свайго візіту ён меў магчымасць пазнаёміцца з мастацкім жыццём нашага горада, сустрэцца са студэнтамі Беларускай акадэміі музыкі, з кампазітарамі...***

Самая першая і таму, мабыць, самая яркая сустрэча адбылася 21 лістапада ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Прысутнічалі журналісты, прадстаўнікі музычнай грамадскасці, Міністэрства культуры.

Як аказалася, Ю. Такахасі, старшыня Федэрацыі кампазітараў Японіі, апынуўся ў Мінску па ініцыятыве маэстра Г. Праваторава, з якім пазнаёміўся ў 1992 г. на музычнай імпрэзе ў Казані. Беларусь была для яго "закрытай" краінай, і вось — адбываецца прыемнае адкрыццё.

Сп. Такахасі нарадзіўся ў старажытным горадзе Кіёта, багатым на традыцыі, знаным сваімі храмамі. З маленства пазнаёміўся з еўрапейскай музыкай. Вялікія творы Баха, Бетховена абудзілі ў ім жаданне зрабіцца кампазітарам. Ён працуе ў сучаснай манеры, адчуваючы ў працэсе творчасці злучальнае звяно паміж старажытнасцю і сённяшнім днём — пэўна, такую ж сувязь ажыццяўляюць і маладыя беларускія кампазітары ў сваёй музыцы.

**— Большасць маіх твораў, — адзначыў Ю. Такахасі, — выконваецца ў павольным тэмпе. Гэта, пэўна, таму, што спрадвек японцы займаюцца земляробствам. Земляробы — народ больш марудлівы. Ува мне цячэ кроў маіх продкаў, і мае творы нібы трывала стаяць на зямлі. Ёсць традыцыйнае японскае мастацтва — "но". У яго аснове вельмі марудны рух, запаволены тэмп, і хто ўпершыню глядзіць паказ "но", можа нават заснуць. Паміж гукамі, голасам выканаўцы "но" ёсць пэўная часавая прастора, якая называецца "ма". Гэтыя паўзы вельмі цэняцца ў традыцыйным японскім мастацтве. Ёсць такія "ма" і ў сімфоніі "Карма", якія для мяне дарагія настолькі ж, наколькі дарагі ўласна музычны матэрыял.**

Сімфонія "Карма", напісаная ў пачатку 90-х, стваралася пад уплывам японскіх традыцый і традыцый еўрапейскай музыкі. Аўтар параўнаў дынаміку гэтага адначасткавага сімфанічнага палатна з чалавечым дыханнем. У спакойным стане яно раўнамернае. Калі запавольваецца музыка, раўнамерным робіцца й дыханне. Калі ўзрастае тэмп — дыханне робіцца адпаведным музыцы. Для японскай традыцыі характэрны спакойны пачатак, затым — бурлівае развіццё і зноў — спакойная плынь...

Ідэя сімфоніі цесна звязана з праявамі космасу, са стыхіямі агню, ветру і вады. Адпаведна санскрыту, "карма" — чалавечыя паводзіны, якія ўрэшце вызначаюць усё як у асабістым жыцці, так і ў лёсе навакольнага свету. Сімфонія "Карма" настройвае на роздум пра ўзаемасувязь усіх прыродных з'яў і чалавечых учынкаў. Напачатку, праз шокавы "ўдар" аркестра, аўтар хацеў адлюстраваць усе грахі, учыненыя людзьмі, чалавецтвам, якое напаткала папярэджанне ад Усявышняга. Але ні ў якім разе не меў на мэце засяроджвацца на ідэі пакарання за людскія грахі.

**— Я лічу, — прызнаўся сп. Такахасі, — што кожны чалавек — гэта цудоўная істота. Але хаця ён і надзелены розумам, ён можа рабіць памылкі. Вось і цяпер на зямлі — войны, сутыкненні рэлігій, за непапраўнымі наступствамі трагедыі Хірасімы і Нагасакі — Чарнобыль з яго шматлікімі ахвярамі... Мы самі адказныя за тое, што адбываецца вакол нас. І калі я пісаў гэту сімфонію, такія думкі былі са мной. Як і адчуванне сваёй асабістай адказнасці. У фінале твора тэмп запавольваецца. Гэта — мае малітвы за тое, каб у свеце запанаваў мір і ўзаемаразуменне... Зрэшты, кожны слухач вольны ўспрымаць пачутае па-свойму.**

"Карма" Ю. Такахасі выконвалася ў пяці краінах свету. Але толькі на Беларусі кампазітар адчуў надзвычай зацікаўленае і шчырае стаўленне да яе. Разлічаная на вялікі аркестравы склад, партытура вымагае дадатковых арганізацыйных цяжкасцяў і не можа грацца часта. У Мінску ж яна, дзякуючы маэстра Г. Праваторaву і энтузіязму Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, прагучала двойчы.



Зважаючы на тое, што аўтар змог прыбыць у Мінск толькі праз 3 дні пасля прэм'еры, музыканты паўтарылі выкананне, прымеркаваўшы яго да згаданай гаворкі.

Але перш чым зала напоўнілася "голасам новага тысячагоддзя", Ю. Такахасі сам узняўся на сцэну і прадэманстраваў мінчукам традыцыйнае мастацтва "но". Апрануўшы бялюткія "балеткі", марудна пачаў ён свой дзіўны рытуальны танец. Укленчыўшы, выхапіў з-за паса складзены веер. Паскараючы тэмп руху, разгарнуў залацісты веер, заспяваў мілагучную і мужную мелодыю, чаргуючы меладэкламацыю са шматзначнымі "ма"...

Потым госць падрабязна патлумачыў сімволіку "но" і дадаў, што гэтым сваім танцам ён хацеў выказаць радасць ад наведвання Беларусі, карма якой бачыцца яму вельмі светлай...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Ютака Такахасі выконвае "но".*

*Фота М. ПРУПАСА*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**2 і 3 снежня ў клубе імя Дзяржынскага адбудзецца прэм'ера новага спектакля рэжысёра Мікалая Пінігіна "Стрыптыз" паводле п'ес паляка Славаміра Мрожака "Караль" і "Стрыптыз". Сцэнографам, як заўсёды, Зіновій Марголін. У спектаклі граюць акцёры Віктар Манаеў, Сяргей Журавель і Уладзімір Мішчанчук.**

**ВЫСТАВЫ**

**Нацыянальны мастацкі музей**

Да *6 снежня* — выстаўляецца калекцыя рэстаўраваных абразоў 17—18 стагоддзяў.

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

Да *лютага* — працуе выстава гутнага шкла з больш як дзесятка беларускіх музеяў, з калекцыяй шклозавода "Нёман" і Барысаўскага крышталёвага завода.

**КАНЦЭРТЫ**

У снежні Беларуская музычная альтэрнатыва ладзіць тур "Вольных танцаў".

*8 снежня* — ў Оршы ў кінатэатры "Перамога".

*9 снежня* — у Магілёўскім Палацы культуры піянераў.

*15 снежня* — у Брэсце ў Доме культуры прафсаюзаў.

*16 снежня* — у Гродне ў Доме культуры хімікаў.

*22 снежня* ў Гомелі ў Абласным культурным цэнтры адбудуцца канцэрты з удзелам "Палаца", "Postscriptum" "Акругі вольнага мастацтва", "Крамы", "Нейра Дзюбеля", "Н.Р.М.", "Крыві" і іншых.

**ЗАПРАШАЕ КІНАТЭАТР "ЗМЕНА"**

*1 снежня* да 80-годдзя слуцкага паўстання будзе паказаны фільм Міколы Гайдука "Рэха Слуцкага збройнага чыну".

## У Доме літаратара

**5 снежня.** Вялікая зала. 18.00.
Прэзентацыя альбома лірычных песень Рыгора Барадуліна і Алеся Камоцкага "Зорка спагады".

**6 снежня.** Бібліятэка СБП.
Да 100-годдзя з дня нараджэння Н. Чарнушэвіча.

**10 снежня.** 15.00
Пасяджэнне секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва. Абмеркаванне творчасці маладых.

**13 снежня.** Канферэнц-зала. 15.00.
Пасяджэнне бюро секцыі паэзіі.

**14 снежня.** Канферэнц-зала. 18.00.
"Паміж смерцю і нараджэннем". Сумеснае пасяджэнне бюро секцыі паэзіі і Польскага гуманітарнага клуба "Дах", прысвечанае Адаму Міцкевічу.

**15 снежня.** Бібліятэка СБП.
Да 70-годдзя з дня нараджэння Алеся Барскага.

**20 снежня.** Бібліятэка СБП. Да 80-годдзя з дня нараджэння А. Гутковіча.

**21 снежня.** 15.00.
Пасяджэнне секцыі публіцыстыкі і нарыса. Абмеркаванне творчасці маладых.

**26 снежня.** Вялікая зала. 18.00.
Навагодняя ялінка.

## Беларускі калегіум

**ЗАПРАШАЕ**

**5 снежня** — прэзентацыя кнігі Алеся Разанава "Гліна. Камень. Жалеза." з удзелам аўтара.
**12 снежня** — Віктар Пятроў-Хруцкі "Найноўшае мастацтва ў Беларусі"
**19 снежня** — прэзентацыя часопіса "Arche". Тэма нумара — "Слоўнік свабоды".
**26 снежня** — Міхаіл Міхайлаў "Вытокі індаеўрапейскай цывілізацыі: новыя адкрыцці і факты".
*Лекцыі і прэзентацыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16).*
**Пачатак у 18.30.**

ЭПІГРАМЫ

Сцяпан СІНІЦА

***"Інтэгратар"***

*Глядзіць з экрана —*
*не змаргне,*
*А брэша — нібы*
*круціць дулі.*
*Такому рай і ў будане,*
*Каб толькі быў будан*
*агульны.*

***Бесхрыбетнаму***

*Бесхрыбетная істота,*
*Дык прызнайся:*
*за каго ты?*

*Ўсе твае перакананні*
*Растаюць, як сон уранні.*

*Калі трэба — залаты.*
*Дзе уежней, там і ты.*

*Можаш курсы адкрываць,*
*Як гадзіць і дагаджаць,*

*Як прыслужваць*
*і служыць,*
*Як здавацца, а не быць.*

***Хобі***

*Ён хобі цікавае мае —*
*Жанчын, быццам маркі,*
*збірае.*

*Любыя! Каштоўныя,*
*танныя,*

*І новыя,*
*і скарыстаныя.*

*Наклеіў мо цэлы альбом*
*Ліслівым сваім языком.*

***Бяда***

*Ружовыя забыты мары:*
*Ёй палюбіліся даляры.*

*Як свет сабою засланілі,*
*Дык і яе перамянілі.*

*Паглядзіш збоку —*
*як і ўсе,*
*Яна ж бяду ў сабе нясе.*

***Крыўдліваму***

*Ты дзе ні ступіш —*
*там крыўдуеш,*
*Дабра не бачыш і не чуеш.*
*Табе павінен цэлы свет,*
*Бо ты — з правінцыі паэт.*

***Удачлівым***

*Удачлівыя!*
*Хай і надалей*
*Удача будзе вашай*
*спадарожніцай,*
*Не адстае ніколі*
*і не позніцца,*
*Не адпіхае слабых*
*і дзяцей.*

*Інакшай, як зарвецеся вы —*
*Бразь!*
*Занадта ганарыстых*
*любіць гразь.*

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

***Суботнік для душы***

*Якое ў наваколлі*
*бездарожжа,*
*Якія ямы, курганы*
*ў душы!*
*Хоць збольшага кірунак*
*пакажы*
*на цвёрды грунт,*
*наш міласэрны Божа.*
**Мар'ян ДУКСА**

*Калі ў душы*
*слата і бездарожжа,*
*Сам чорт, і той бы*
*ногі паламаў.*
*Цябе ў яе не запрашаю,*
*Божа,*
*Каб потым ты мяне*
*не праклінаў.*

*Ды не такі прапашчы*
*я нягоднік,*
*І не лайдак жа —*
*Божа барані!*
*Лепш аб'яўлю*
*ў душы суботнік:*
*Засыплю ямы,*
*зрыю курганы!*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 1.12.2000 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6340

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12